Грамадскае аб’яднанне
“Беларуская асацыяцыя журналістаў”

# СМІ ў Беларусі

2013

Мінск
2014

# ЗМЕСТ

# ПАРУШЭННІ СВАБОДЫ ВЫКАЗВАННЯ МЕРКАВАННЯ Ў БЕЛАРУСІ У 2013 г. (агляд)

У 2013 г. сітуацыя ў сферы СМІ ў Беларусі знаходзілася ў стане стагнацыі, застаючыся вельмі неспрыяльнай для свабоды выказвання меркавання.

Асноўныя пазітыўныя падзеі медыйнага года адбыліся на яго пачатку. Былі спыненыя крымінальныя справы супраць журналістаў Андрэя Пачобута і Антона Сурапіна, было адмоўлена ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да службовых асоб часопіса "Arche. Пачатак" (Гл. Судовыя справы). Гэтыя канфлікты знаходзіліся ў цэнтры ўвагі міжнароднай грамадскасці, і іх вырашэнне можа сведчыць пра спробы афіцыйнага Мінска разблакаваць адносіны з Еўрасаюзам пасля паствыбарнага крызісу канца 2010 - 2012 гг.

Аднак гэтыя пазітыўныя крокі не суправаджаліся сістэмнымі зменамі ў галіне СМІ. Наадварот, рабіліся захады рэпрэсіўнага характару ў дачыненні да СМІ і журналістаў.

Супрацоўнікі міліцыі неаднаразова затрымлівалі журналістаў пры ажыццяўленні імі прафесійных абавязкаў, пракуратура і КДБ выносілі ў адрас фрылансераў папярэджанні за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ. На працягу года БАЖ зафіксавала больш за 50 выпадкаў затрымання журналістаў, 4 з якіх завяршыліся адміністрацыйнымі арыштамі на тэрмін ад 3 да 12 сутак, і як мінімум 10 выпадкаў вынясення журналістам афіцыйных папярэджанняў.

Узмацнілася выкарыстанне заканадаўства аб супрацьдзеянні экстрэмізму для падаўлення свабоды выказвання меркавання. Так, у красавіку быў прызнаны экстрэмісцкімі матэрыяламі фотаальбом «Прэс-фота Беларусі 2011». Спасылаючыся на гэтае судовае рашэнне, Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь у верасні пазбавіла ліцэнзіі выдавецтва «Логвінаў», якое з'яўляецца адным з флагманаў беларускага незалежнага кнігавыдання. Напрыканцы года стала вядома аб яшчэ некалькіх спробах уладаў прызнаць кніжную прадукцыю экстрэмісцкімі матэрыяламі.

Працягвалася эканамічная дыскрымінацыя незалежных СМІ. Дзяржаўныя прадпрыемствы «Белпошта» і «Белсаюздрук», дамінуючыя на рынку распаўсюджвання друкаваных СМІ, па-ранейшаму адмаўляюцца распаўсюджваць незалежныя друкаваныя выданні. З падобнымі праблемамі сутыкаюцца каля паловы з 30 зарэгістраваных газет, якія асвятляюць сацыяльна-палітычныя праблемы без відавочнага ўздзеяння выканаўчай улады. Гэта адбывалася на фоне адміністрацыйных прэферэнцый і наўпроставай бюджэтнай падтрымкі дзяржаўных медыяў. Цягам 2013 г. на фінансаванне СМІ, якія падтрымліваюцца дзяржавай, рэспубліканскім бюджэтам было выдзелена каля 60 млн. еўра, якія былі размеркаваныя на пазаконкурснай аснове. Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія, а таксама дзяржаўныя тэлеканалы СТВ («Сталічнае тэлебачанне») і АНТ («Другі нацыянальны тэлеканал») у чарговы раз вызваленыя ад выплаты падаткаў на дабаўленую вартасць і на прыбытак.

Інтэрнэт у Беларусі застаецца самай свабоднай сферай распаўсюджвання інфармацыі, аднак свабода дзейнасці ў ім паступова абмяжоўваецца. У 2013 г. блогеры і іншыя інтэрнэт-актывісты пераследваліся і прыцягваліся да крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасці. Незалежныя інтэрнэт-рэсурсы перыядычна сутыкаліся з блакаваннем, хакерскімі нападамі і да т. п. Некалькі інфармацыйных рэсурсаў ўключаны ў «чорны спіс» сайтаў, доступ да якіх абмяжоўваецца ў дзяржаўных арганізацыях, установах адукацыі і культуры. Напрыканцы 2013 г. намеснік міністра інфармацыі заявіў, што рыхтуюцца змены ў заканадаўства аб СМІ з тым, каб

распаўсюдзіць яго палажэнні (аж да адклікання рэгістрацыі) на «найбольш папулярныя і ўплывовыя інтэрнэт-рэсурсы». Гэтая заява выклікала негатыўную рэакцыю ў журналісцкім асяродку і інтэрнэт-супольнасці.

Беларускія і міжнародныя арганізацыі і структуры неаднаразова заклікалі прывесці заканадаўства Рэспублікі Беларусь у галіне СМІ ў адпаведнасць з дэмакратычнымі стандартамі. Аднак прававыя акты, прынятыя ў Беларусі ў 2013 г., не сведчаць пра магчымую дэмакратызацыі сферы СМІ ў Беларусі. Хутчэй, наадварот: яны паказваюць імкненне ўладаў узмацніць кантроль за свабодай выказвання меркавання і па-за межамі традыцыйных медыяў – у Інтэрнэце і кніжным сектары (у ліпені 2013 г. набыў сілу новы закон "Аб выдавецкай справе ў Рэспубліцы Беларусь", які прадугледжвае рэгістрацыю Міністэрствам інфармацыі выдаўцоў кніг, друкарняў, а таксама распаўсюджвальнікаў кніжнай прадукцыі).

# ЗМЕНЫ Ў ЗАКАНАДАЎСТВЕ

**3 студзеня** прыняты Закон Рэспублікі Беларусь № 15-З ***«Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях рэкламы»*** (у прыватнасці ў законы *“Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь”* і *“Аб рэкламе”*).

З набыццём новым Законам юрыдычнай моцы патрабаванне пра размяшчэнне рэкламы на рускай і (або) беларускай мове не будзе распаўсюджвацца на рэкламу, якая размяшчаецца (распаўсюджваецца) на інфармацыйных рэсурсах нацыянальнага сегмента глабальнай камп’ютарнай сеткі Інтэрнэт, што размяшчаюць (распаўсюджваюць) інфармацыю выключна на замежных мовах, гэтак жа можна будзе не перакладаць на рускую і (або) беларускую мову выкананыя на замежных мовах найменні тавараў, творчыя псеўданімы, арыгінальныя назвы творчых калектываў, твораў, даменныя імёны сайтаў.

З закону *“Аб рэкламе”* выключаецца патрабаванне пра абавязковае указанне ў рэкламе рэквізітаў ліцэнзіі пры рэкламаванні рэцэнзуемага віду дзейнасці. Істотна змяняюцца патрабаванні да афармлення спасылак, якія ўдакладняюць інфармацыю, што ўтрымліваецца ў рэкламе, і ўводзяцца патрабаванні да афармлення нумароў тэлефонаў, даменнага імя Інтэрнэт-сайта, нумару і даты выпуску друкаванага СМІ, які ўтрымлівае інфармацыю пра аб’ект рэкламавання.

Найбольш істотныя змены, што ўносяцца новым Законам, датычацца:

- рэкламы лекавых сродкаў, медыцынскай дзейнасці і вырабаў медыцынскага прызначэння і медыцынскай тэхнікі;
- рэкламы піва і слабаалкагольных напояў;
- рэкламы банкаў і небанкаўскіх крэдытна-фінансавых арганізацый;
- рэкламы гульнёвых устаноў і азартных гульняў;
- сацыяльнай рэкламы.

Законам пашыраецца пералік прыкметаў рэкламы, якая можа быць прызнанай неэтычнай, уводзіцца забарона на рэкламу дзейнасці па прыцягненні грашовых сродкаў.

**5 студзеня** прыняты Закон Рэспублікі Беларусь № 16-З ***«Аб камерцыйнай таямніцы»***. Ён рэгулюе адносіны, што ўзнікаюць ў сувязі з устанаўленнем, змяненнем і адменай рэжыму камерцыйнай таямніцы, а таксама ў сувязі з прававой аховай камерцыйнай таямніцы.

Доступ да камерцыйнай таямніцы можа прадастаўляцца па патрабаванні:

- суда – па крымінальных і грамадзянскіх справах, якія знаходзяцца ў яго вытворчасці, справах, аднесеных да падведамнасці гаспадарчага суда, і справах аб адміністрацыйных правапарушэннях, а таксама па выканаўчых дакументах, што знаходзяцца ў яго на выкананні;
- пракурора або яго намесніка;
- органаў дазнання і папярэдняга следства – па матэрыялах і крымінальных справах, якія знаходзяцца ў іхнай вытворчасці;
- органаў, што ажыццяўляюць аператыўна-вышуковую дзейнасць;
- органаў Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь;

- падатковых і мытных органаў;
- антыманапольных органаў;
- іншых дзяржаўных органаў і іншых асобаў, вызначаных заканадаўчымі актамі.

Новым Законам прадугледжана адказнасць фізічных і юрыдычных асобаў, дзяржаўных органаў і іх службовых асобаў за дзеянні (бяздзеянне), якія пацягнулі за сабою незаконнае азнаямленне са звесткамі, што з'яўляюцца камерцыйнай таямніцай, або за незаконнае выкарыстанне гэтых звестак, а таксама за разгалошванне камерцыйнай таямніцы ў адпаведнасці з заканадаўствам. Уносяцца адпаведныя змены ў Грамадзянскі і Працоўны кодэксы Рэспублікі Беларусь.

**11 студзеня** Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 25 верасня 2009 г. №478" быў падоўжаны тэрмін вызвалення ад выплаты падаткаў тэлеканалаў СТВ (ЗАТ "Сталічнае тэлебачанне") і АНТ (ЗАТ "Другі нацыянальны тэлеканал"). Папраўкай ва ўказ ад 2009 г. "Аб дзяржаўнай падтрымцы тэлерадыёкампаній" заканчэнне гэтага тэрміну было перанесена з 2012 г. на 2015 г. Такім чынам, да 31 снежня 2015 года АНТ і СТВ працягнуць атрымліваць *"дзяржаўную падтрымку ў выглядзе субсідыяў з рэспубліканскага бюджэту ў межах сум падаткаў на прыбытак і дабаўленую вартасць ад прадпрымальніцкай дзейнасці"*, выплачаных за гэты перыяд у бюджэт.

**12 сакавіка** Пастановай Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь № 73 ***«Аб парадку засведчання запыта аб прадастаўленні персанальных дадзеных фізічных асоб з рэгістра насельніцтва»*** ўстаноўлены парадак засведчання пісьмовага і электроннага запыта дзяржаўнага органа, іншай арганізацыі, натарыуса аб прадастаўленні персанальных дадзеных.

**16 красавіка** прыняты Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 196 ***«Аб некаторых мерах па ўдасканаленню абароны інфармацыі»***, якім зацвярджаецца ***Палажэнне аб тэхнічнай і крыптаграфічнай абароне інфармацыі ў Рэспубліцы Беларусь***, а таксама ўносяцца змяненні і дапаўненні ва Ўказ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь *«Аб удасканаленні кантрольнай (нагляднай) дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь»* і ў *Палажэнне аб ліцэнзаванні асобных відаў дзейнасці.* Новаўвядзенні тычацца галоўным чынам пашырэння паўнамоцтваў Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, які атрымаў права ліцэнзавання дзейнасці па тэхнічнай і (або) крыптаграфічнай абароне інфармацыі, права кантролю за тэхнічнай і крыптаграфічнай абаронай інфармацыі і шэраг іншых.

**30 красавіка** пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 332 ***«Аб рэарганізацыі ўстановаў «Рэдакцыя газеты «Рэспубліка» і «Рэдакцыя газеты «Белорусская нива»*** было прынята рашэнне далучыць установы "Рэдакцыя газеты "Рэспубліка" і "Рэдакцыя газеты "Белорусская нива" да ўстановы Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Рэдакцыя газеты "Советская Белоруссия".

**7 чэрвеня** на падставе палажэнняў закона *"Аб выдавецкай справе ў Рэспубліцы Беларусь"* прынята пастанова Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь № 8 ***"Аб устанаўленні пераліку ведамасных выданняў".*** Да такога роду выданняў – выдаўцы, вытворцы і распаўсюджвальнікі якіх не падлягаюць дзяржаўнай рэгістрацыі – могуць быць аднесеныя друкаваныя выданні кіраўніцкага і вытворчага характару, друкаваныя выданні даведачнага характару, друкаваныя выданні інфармацыйнага характару, друкаваныя выданні навукова-метадычнага характару, друкаваныя выданні вучэбна-метадычнага характару. Для гэтага, у адпаведнасці з Законам, яны павінныя ўтрымліваць *«інфармацыю дапаможнага або часовага характару, звязаную з дзейнасцю дзяржаўнага органа, іншай арганізацыі"*.

**20 чэрвеня** Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 501 зацверджана ***Палажэнне аб парадку фармавання плана выпуску сацыяльна значных выданняў*** (на падставе палажэнняў закона *"Аб выдавецкай справе ў Рэспубліцы Беларусь»*). Ім прадугледжана, што План фармуецца Міністэрствам інфармацыі штогод на падставе прапаноў зацікаўленых дзяржаўных органаў і іншых арганізацый. Да сацыяльна значных выданняў могуць быць аднесены друкаваныя выданні, якія выпускаюцца ў свет у мэтах выканання заканадаўчых актаў, дзяржаўных і галіновых праграм, у іншых мэтах, у тым ліку друкаваныя выданні, прызначаныя для камплектавання фондаў бібліятэк.

**1 ліпеня** пастановай Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь № 9 ***«Аб некаторых пытаннях дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюджвальнікаў друкаваных выданняў»*** былі ўстаноўленыя форма заявы аб дзяржаўнай рэгістрацыі (перарэгістрацыі) у якасці выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў, а таксама форма і парадак выдачы пасведчання аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў.

**7 ліпеня** ўступіў у сілу Закон Рэспублікі Беларусь ад 29 снежня 2012 г. №8-З ***"Аб выдавецкай справе ў Рэспубліцы Беларусь".*** Гэтым Законам вызначаюцца асновы выдавецкай справы, накірункі дзяржаўнай палітыкі ў галіне выдавецкай справы, рэгулюецца парадак дзяржаўнай рэгістрацыі, перарэгістрацыі выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюджвальнікаў друкаваных выданняў. На адносіны, звязаныя з вырабам, і (або) выпускам, і (або) распаўсюджваннем прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі дзеянне гэтага Закона не распаўсюджваецца.

**9 ліпеня** пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 603 ***«Аб зацвярджэнні Палажэння аб парадку вытворчасці і размяшчэння (распаўсюджвання) сацыяльнай рэкламы, складзе Міжведамаснай рады па рэкламе і ўнясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь па пытаннях рэкламы»*** зацверджаны адпаведныя меры па выкананні закона *«Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях рекламы»* ад **3 студзеня**, які набывае моц. Пастанова прынята з мэтай рэалізацыі палажэнняў закона *"Аб выдавецкай справе ў Рэспубліцы Беларусь»* і не тычыцца выдаўцоў СМІ і распаўсюджвальнікаў іх прадукцыі.

**12 ліпеня** Законам Рэспублікі Беларусь № 64 -З ***«Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях і Працэсуальна-выканаўчы кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях»*** трансфармаваныя некаторыя артыкулы КаАП Рэспублікі Беларусь, якія могуць закранаць дзейнасць журналістаў і сродкаў масавай інфармацыі.

Так, у прыватнасці, ч. 1 арт. 12.15 *"Парушэнне заканадаўства аб рэкламе"* (у тым ліку рэкламараспаўсюджвальнікамі), які раней прадугледжваў накладанне штрафу ў памеры ад дваццаці да пяцідзесяці базавых велічынь, зараз *«цягне накладанне штрафу ў памеры ад пяці да трыццаці базавых велічынь, на індывідуальнага прадпрымальніка – ад дзесяці да сарака базавых велічынь, а на юрыдычную асобу – ад дваццаці да пяцідзесяці базавых велічынь»*.

Была дапоўненая ч. 2 арт. 22.9 *"Парушэнне заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі"*. Калі раней у ёй ішла гаворка аб накладанні штрафу за *«незаконны выраб і распаўсюджванне прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі»*, то ў новай рэдакцыі штрафам караецца *"незаконны выраб і (або) распаўсюджванне прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі"*. Гэтая навацыя дае права прыцягваць да адміністрацыйнай адказнасці не толькі тых, хто незаконна вырабіў, а затым распаўсюдзіў прадукцыю

СМІ, але таксама тых, хто займаўся або вырабам, або распаўсюджваннем такой прадукцыі незаконна.

Санкцыя арт. 24.1 *"Непавага да суду"*, якая раней прадугледжвала штраф у памеры ад васьмі да пяцідзесяці базавых велічынь або адміністрацыйны арышт, у адпаведнасці з унесенымі зменамі дапускае больш мяккае пакаранне – папярэджанне; непавага да суду можа таксама карацца накладаннем штрафу ў памеры да дваццаці базавых велічынь, або адміністрацыйным арыштам.

**16 ліпеня** пастановай Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь № 10 была зацверджаная ***Інструкцыя аб парадку вядзення Дзяржаўнага рэестра выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюджвальнікаў друкаваных выданняў Рэспублікі Беларусь,*** стварэнне якога прадугледжанае законам *"Аб выдавецкай справе ў Рэспубліцы Беларусь"*.

**23 ліпеня** выйшла пастанова Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь № 63 ***«Аб некаторых мерах па рэалізацыі артыкулаў 15 і 15[1] Закона Рэспублікі Беларусь ад 10 мая 2007 года «Аб рэкламе» і прызнанні страціўшымі сілу некаторых пастановаў Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь»,*** якой устаноўленыя патрабаванні да рэкламы лекавых сродкаў, метадаў аказання медыцынскай дапамогі, работ і (або) паслуг, што складаюць медыцынскую дзейнасць, вырабаў медыцынскага прызначэння і медыцынскай тэхнікі, а таксама біялагічна актыўных дадаткаў да ежы, акрамя тых, якія ўтрымліваюцца ў законе "*Аб рэкламе*", з улікам змяненняў і дапаўненняў, унесеных законам *« Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях рекламы»* ад **3 студзеня.**

**20 верасня** прынятая пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь №829 ***«Аб некаторых мерах па рэалізацыі Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 16 студзеня 2012 г. № 28»***, прысвечаная правядзенню ў Мінску чэмпіянату свету па хакеі 2014 года. Ёю, між іншым, прадугледжана перадача прыватным спартыўным унітарным прадпрыемствам "Дырэкцыя па правядзенні чэмпіянату свету па хакеі з шайбай 2014 года" ў Дзяржаўны пагранічны камітэт звестак пра афіцыйных удзельнікаў чэмпіянату, уключаных у афіцыйную акрэдытацыйную сістэму чэмпіянату Міжнароднай федэрацыі хакея (МФХ), для іх бязвізавага пропуску ў Беларусь. Гэтае палажэнне распаўсюджваецца таксама на акрэдытаваных МФХ журналістаў.

**7 кастрычніка** Прэзідэнт Беларусі падпісаў указ № 456 ***"Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у некаторыя Указы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь".*** Ім уносяцца змены ва ўказы *"Аб удасканаленні кантрольнай (наглядной) дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь"* і *"Аб ліцэнзаванні асобных відаў дзейнасці"*, што тычацца ажыццяўлення вяшчання і паліграфічнай дзейнасці.

У адпаведнасці з новым указам, выдавецкая дзейнасць выключаная з пераліку ліцэнзуемых відаў дзейнасці. Гэта звязана з тым, што цяпер асобы, якія яе ажыццяўляюць, павінны рэгістравацца ў якасці выдаўца. "*Кантроль за выконваннем заканадаўства ў галіне выдавецкай справы"* будзе па-ранейшаму ажыццяўляць Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Ліцэнзаванне паліграфічнай дзейнасці цяпер ажыццяўляецца толькі ў адносінах да друкаваных сродкаў масавай інфармацыі.

У той самы час у пералік ліцэнзуемых відаў дзейнасці ўнесена дзейнасць у галіне вяшчання. Раней ліцэнзавалася толькі дзейнасць па трансляцыі і рэтрансляцыі тэлевізійных праграм (эфірнай, спадарожнікавай, у сістэме кабельнага тэлебачання), а вяшчанне ажыццяўлялася на падставе прадастаўлення права на вяшчанне.

Указам пашыраны пералік грубых парушэнняў заканадаўства аб ліцэнзаванні, якія даюць магчымасць ліцэнзуючаму органу (Міністэрству інфармацыі) спыніць дзеянне ліцэнзіі. Калі раней да ліку такіх парушэнняў адносіўся "*выпуск друкаванай прадукцыі з заклікамі да экстрэмісцкай дзейнасці, экстрэмісцкіх матэрыялаў, парнаграфічнай літаратуры",* дык цяпер замест гэтага ўключана *"ажыццяўленне ліцэнзуемай дзейнасці ў мэтах, якія супярэчаць інтарэсам Рэспублікі Беларусь".* Калі тэрміны *"экстрэмісцкая дзейнасць*" і "*парнаграфія"* раскрываюцца ў дзеючым заканадаўстве, то змест і віды "*мэтаў, якія супярэчаць інтарэсам Рэспублікі Беларусь"* ні ў адным нарматыўным прававым акце не вызначаны, што стварае магчымасць іх неапраўдана шырокай трактоўкі ліцэнзуючым органам.

**17 кастрычніка** Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 477 ***"Аб некаторых пытаннях асвятлення мерапрыемстваў чэмпіянату свету па хакеі 2014 года"*** ўстаноўлена, што для ажыццяўлення на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь прафесійнай дзейнасці па асвятленні ў сродках масавай інфармацыі мерапрыемстваў чэмпіянату свету па хакеі 2014 года прадстаўнікі замежных сродкаў масавай інфармацыі павінны быць акрэдытаваныя Міжнароднай федэрацыяй хакея. Для ажыццяўлення дзейнасці па асвятленні іншых мерапрыемстваў (падзей) у той самы перыяд ім неабходна атрыманне акрэдытацыі Міністэрства замежных спраў ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

**2 снежня** быў падпісаны Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 531 ***"Аб некаторых пытаннях інфарматызацыі***", які вызначыў кампетэнцыю памочніка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь – начальніка галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, а таксама функцыі Міністэрства сувязі і інфарматызацыі і Галоўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях па кіраванні працэсамі інфарматызацыі ў Рэспубліцы Беларусь і рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў сферах інфарматызацыі, інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогіяў, тэлекамунікацыяў і высокіх тэхналогіяў.

Дакументам таксама вызначана, што дзяржаўныя органы і арганізацыі ажыццяўляюць мерапрыемствы ў сферы інфарматызацыі (у тым ліку стварэнне інфармацыйных рэсурсаў, інфармацыйных сістэм і сетак і інш.) толькі на падставе праграм інфарматызацыі, абавязковую распрацоўку і зацвярджанне якіх павінен забяспечыць Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 ліпеня 2014 года.

**10 снежня** пастановай Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь № 12 зацверджана ***Інструкцыя аб парадку правядзення кваліфікацыйнага экзамена***, які праводзіцца *"для пацверджання ведаў спецыялістаў, адказных за ажыццяўленне выдавецкай дзейнасці, у галіне выдавецкай дзейнасці*" ў адпаведнасці з патрабаваннямі закона "*Аб выдавецкай справе ў Рэспубліцы Беларусь*".

**12 снежня** быў прыняты Закон Рэспублікі Беларусь № 84-З «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях абароту аналагаў наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў і зброі». Ім, у прыватнасці, былі ўнесеныя змены ў п. 1.2 арт. 38 закона «Аб сродках масавай інфармацыі", у адпаведнасці з якім у сродках масавай інфармацыі забаронена распаўсюджванне *«звестак, якія прапагандуюць спажыванне наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх аналагаў, таксічных і іншых адурманьваючых рэчываў, а таксама звестак аб спосабах і метадах распрацоўкі, вырабу, выкарыстання і месцах набыцця наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх прэкурсораў і аналагаў».*

У адрозненне ад ранейшага варыянту дадзенага артыкула, забарона на распаўсюджванне вышэйзгаданых звестак тычыцца цяпер таксама аналагаў наркатычных сродкаў і псіхатропных рэчываў і дзейнічае незалежна ад мэтаў распаўсюджвання (выключана абмежаванне *«ў немедыцынскіх мэтах»*).

**20 снежня** Пленумам Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь прынятая пастанова № 11 ***"Аб забеспячэнні галоснасці падчас ажыццяўлення правасуддзя і аб распаўсюджванні інфармацыі аб дзейнасці судоў***", у якой, між іншым, надаецца нямала ўвагі правам журналістаў, што прысутнічаюць у судзе.

Так, у дакуменце падкрэсліваецца, што асноўнай формай рэалізацыі прынцыпа галоснасці падчас ажыццяўлення правасуддзя з'яўляецца магчымасць прысутнічаць у адкрытым судовым пасяджэнні асобам, якія не з'яўляюцца ўдзельнікамі працэсу, журналістам сродкаў масавай інфармацыі. Журналісты маюць законнае права на збіранне і атрыманне інфармацыі для ажыццяўлення прафесійнай дзейнасці. Іх прысутнасць у адкрытым судовым паседжанні ў мэтах атрымання звестак па справе з'яўляецца законным спосабам рэалізацыі такога права. Калі пры судовым разборы мяркуецца прысутнасць журналістаў сродкаў масавай інфармацыі, належыць прадугледзець для іх месцы ў зале судовага паседжання з улікам яго ўмяшчальнасці.

Пастанова тлумачыць, што ў любога з прысутных на адкрытым судовым паседжанні ёсць магчымасць са свайго месца фіксаваць ягоны ход прадугледжанымі законам сродкамі і спосамі (у пісьмовай форме або шляхам гуказапісу), не паведамляючы пра гэта суду і не атрымліваючы дазволу. Фота- або кіназдымкі, відэазапіс судовага працэсу па грамадзянскай справе могуць ажыццяўляцца з дазволу суда і з улікам меркаванняў бакоў, а па крымінальнай справе – з дазволу старшыні ў судовым пасяджэнні і са згоды бакоў. Для атрымання адпаведнага дазволу журналісты звяртаюцца з просьбай да суда.

Асобая ўвага судоў, у адпаведнасці з пазіцыяй Вярхоўнага Суда, павінна звяртацца на неабходнасць актыўнага выкарыстання прадугледжаных законам *"Аб інфармацыі, інфарматызацыі і абароне інфармацыі*" спосабаў распаўсюджвання своечасовай, аб'ектыўнай і дакладнай інфармацыі пра дзейнасць судоў (у тым ліку пра ход і вынікі разгляду судовых спраў, якія маюць павышаны грамадскі рэзананс, пра вынікі вывучэння і абагульнення судовай практыкі і да т.п.).

**31 снежня** прыняты Закон Рэспублікі Беларусь № 95-З ***"Аб рэспубліканскім бюджэце на 2014 год"***. У адпаведнасці з гэтым дакументам у 2014 годзе выдаткі на фінансаванне дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі складуць 676,1 млрд. рублёў (каля 52 мільёнаў еўра), з іх 548,3 млрд.рублёў (каля 42 мільёнаў еўра) атрымаюць тэлебачанне і радыё. На фінансаванне інтэрнэт-партала прэзідэнта прадугледжана 15,3 млрд.рублёў (каля 1 млн. 178 тыс. еўра). Гэтыя грошы будуць выкарыстоўвацца для *"збора, падрыхтоўкі і распаўсюджвання дзяржаўнага заказу на афіцыйную інфармацыю, функцыянаванне новай версіі афіцыйнага інтернет-партала Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь"*.

# ПАРУШЭННІ ПРАВОЎ СМІ І ЖУРНАЛІСТАЎ, КАНФЛІКТЫ Ў СФЕРЫ СМІ

## Судовыя справы (акрамя адміністрацыйнага пераследу)

**15 сакавіка** Ўпраўленне Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці прыпыніла расследванне крымінальнай справы ў адносінах да гродзенскага журналіста Андрэя Пачобута ў сувязі з адсутнасцю складу злачынства. Справа была ўзбуджаная на падставе ч. 2 арт. 367 Крымінальнага кодэкса (“Паклёп на Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, здзейснены асобай, якая раней была асуджана за паклёп”). На думку следства, у шэрагу тэкстаў журналіста, апублікаваных на інтэрнэт-рэсурсах, “утрымліваліся паклёпніцкія выказванні ў адносінах да кіраўніка дзяржавы”. Як паведаміў афіцыйны прадстаўнік УСК па Гродзенскай вобласці Сяргей Шаршаневіч, справа спыненая ў сувязі з тым, што высновы лінгвістычных экспертыз разыходзяцца, а падчас папярэдняга следства не знойдзена аб’ектыўных звестак, што пацвярджаюць здзяйсненне А.Пачобутам злачынства.

*Нагадаем, А. Пачобут быў затрыманы **21 ліпеня 2012 года** ў сваёй кватэры. Пасляператрусу яго адвезлі ў пракуратуру, а затым змясцілі ў следчы ізалятар. **30 чэрвеня 2012 года** журналіста адпусцілі пад падпіску аб нявыездзе.*

**20 сакавіка** суд Маскоўскага раёна г. Брэста (суддзя Таццяна Ісаева) адхіліў зыск фотажурналісткі Міланы Харытонавай аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі.

Адказчыкам па справе выступаў Уладзімір Міневіч, карэспандэнт дзяржаўнай газеты «Брестский вестник», заснавальнікам якой з’яўляецца Брэсцкі гарвыканкам. У сакавіку 2012 года У. Міневіч размясціў у Інтэрнэце абразлівыя каментары на адрас незалежнай журналісткі.

Падчас разгляду справы была прызначаная лінгвістычная экспертыза каментараў адказчыка. М. Харытонава хадайнічала даверыць яе незалежнаму эксперту, які мае адпаведны досвед. Але суд даручыў экспертызу выкладчыкам філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэту, дзе раней вычыўся У. Міневіч. З высноваў вынікае, што абразаў у каментарах У. Міневіча не было. На падставе гэтых высноваў суддзя Т. Ісаева адхіліла зыск М. Харытонавай і абавязала яе выплаціць кошт праведзенай экспертызы – 1,5 млн. рублёў.

**6 мая** Брэсцкі абласны суд не задаволіў касацыйную скаргу Міланы Харытонавай на рашэнне Маскоўскага райсуда Брэста, які адхіліў яе зыск супраць журналіста дзяржаўнага выдання.

**15 жніўня** старшыня Брэсцкага абласнога суда Тамара Сучок, разгледзеўшы наглядную скаргу, не знайшла парушэнняў у папярэдніх судовых рашэннях па справе незалежнай журналісткі Міланы Харытонавай, якая спрабавала абараніць свой гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю. Ні раённы, ні абласны суд не прынялі да ведама ні адзін з яе аргументаў. У прыватнасці, журналістка звяртала ўвагу на тое, што лінгвістычная экспертыза была даручаная асобе, якая не мела адпаведнай ліцэнзіі і досведу. Акрамя таго, экспертыза была прызначаная толькі ў адносінах да пытанняў абразы і не тычылася гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі, што патрабавала ў сваёй заяве М. Харытонава.

**5 снежня** Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь не задаволіў скаргу Міланы Харытонавай, якая спрабавала аспрэчыць рашэнне суда Маскоўскага раёна г. Брэста ад **20 сакавіка** па справе аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі.

**4 красавіка** суд Бабруйскага раёна адмовіў у кампенсацыі маральнай шкоды журналісту "Бобруйского курьера" Віктару Качану. Зыскавая заява была пададзеная супраць УУС Магілёўскага аблвыканкама на той падставе, што Віктар Качан, знаходзячыся на рабоце і асвятляючы падзеі на цэнтральнай плошчы Бабруйска, быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі і затым на працягу сутак утрымліваўся пад вартай.

*Нагадаем, **6 ліпеня 2011 года** падчас асьвятлення «маўклівай» акцыі пратэсту ў Бабруйску былі затрыманыя два журналісты газеты "Бобруйский курьер" Віктар Качан і Віктар Масаловіч. Супрацоўнікі міліцыі, ведаючы, што перад імі журналісты, склалі ў дачыненні да іх пратаколы, прадставіўшы іх у вачах грамадскасці парушальнікамі заканадаўства аб масавых мерапрыемствах. Суд спачатку вызначыў для іх адміністрацыйнае пакаранне ў выглядзе штрафу, але пазней спыніў справу ў сувязі з адсутнасцю складу правапарушэння.*

**18 красавіка** Ашмянскі раённы суд (суддзя Аляксандр Давыдаў) прыняў рашэнне аб прызнанні фотаальбома "Прэс-фота Беларусі 2011" экстрэмісцкімі матэрыяламі. У якасці зацікаўленых асоб у суд былі выкліканыя сябры БАЖ фатографы Юлія Дарашкевіч, Аляксандр Васюковіч і Вадзім Заміроўскі. Згодна з рашэннем суда яны павінныя выплаціць па 217,5 тыс. руб. судовых выдаткаў.

**24 чэрвеня** Гродзенскі абласны суд адхіліў касацыйную скаргу па справе аб фотаальбоме "Прэс-фота Беларусі 2011". Такім чынам, рашэнне Ашмянскага райсуда ад 18 красавіка 2013 года набыло законную сілу.

**22 ліпеня** старшынёй Гродзенскага абласнога суда А. Грынкевічам было паведамлена, што наглядная скарга, пададзеная адной з зацікаўленых асобаў – Вадзімам Заміроўскім, не падлягае задавальненню.

*Нагадаем, **12 лістапада 2012 года** 41 асобнік фотаальбома "Прэс-фота Беларусі 2011" быў канфіскаваны на беларуска-літоўскай мяжы ў беларускіх фатографаў Аляксандра Васюковіча, Юліі Дарашкевіч і Вадзіма Заміроўскага. "Прэс-фота Беларусі" – гэта штогадовы незалежны конкурс прэс-фатаграфіі ў Беларусі. Па выніках конкурсу з работ-пераможцаў складаецца фотаальбом. **У лютым 2013 года** альбомы перадалі ва Ўпраўленне КДБ Гродзенскай вобласці, якое прызначыла экспертызу альбома. У сакавіку экспертная камісія прыйшла да высновы, што «падборка матэрыялу ў сукупнасці адлюстроўвае толькі негатыўныя аспекты жыццядзейнасці беларускага народа з уласнымі выдумкамі і высновамі аўтара, што з пункту гледжання сацыяльных нормаў, прынятых у грамадстве і маральнасці, таксама прыніжае нацыянальны гонар і годнасць грамадзян Рэспублікі Беларусь, прымяншае аўтарытэт дзяржаўнай улады, падрывае давер да органаў улады з боку замежных дзяржаў, замежных або міжнародных арганізацый», а такая дзейнасць з'яўляецца экстрэмісцкай. **28 сакавіка** ў суд Ашмянскага раёна Гродзенскай вобласці паступіла заява, у якой Упраўленне КДБ па Гродзенскай вобласці прасіла прызнаць экстрэмісцкімі матэрыяламі фотаальбомы "Прэс-фота Беларусі 2011".*

Падчас разгляду Ашмянскім раённым судом справы аб прызнанні экстрэмісцкімі матэрыяламі фотаальбома "Прэс-фота Беларусі 2011", **17 красавіка**, не быў дапушчаны да ўдзелу ў судовым працэсе ў якасці прадстаўніка грамадскасці намеснік старшыні ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» юрыст Андрэй Бастунец. Паколькі зацікаўленымі асобамі ў дадзенай справе выступалі сябры аб'яднання, ён меў намер выказаць пазіцыю БАЖ, што прадугледжана беларускім заканадаўствам.

**2 мая** ГА "БАЖ" накіравала скаргі ў Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь і Гродзенскі абласны суд, у якіх зазначалася, што суд не дазволіў яму займацца статутнай дзейнасцю, і ўтрымлівалася патрабаванне прыцягнуць да дысцыплінарнай адказнасці суддзю Ашмянскага райсуду Аляксандра Давыдава .

**28 чэрвеня** ў афіцыйным лісце старшыня Гродзенскага аблсуда Аляксандр Грынкевіч прызнаў парушэнні працэсуальных нормаў з боку суддзі А. Давыдава, але паведаміў, што вырашыў не прыцягваць яго да дысцыплінарнай адказнасці "з улікам ранейшых яго добрасумленных адносін да выканання службовых абавязкаў".

**17 чэрвеня** суд Крычаўскага раёна вынес рашэнне па зыску аб абароне дзелавой

рэпутацыі дзяржаўнага камунальнага ўнітарнага прадпрыемства "Чэрыкаўская ПМК № 280" супраць недзяржаўнай малатыражнай газеты "Вольны горад". Суд прызнаў распаўсюджаныя ў газеце (№ 4 ад 3 лютага 2013 года) у артыкуле "Крепостные?" звесткі адносна КУП "Чэрыкаўская ПМК-280" не адпаведнымі рэчаіснасці і абавязаў газету апублікаваць абвяржэнне. Артыкул "Крепостные?" быў напісаны пасля званка ў рэдакцыю "Вольнага горада" жонкі работніка Чэрыкаўскай ПМК № 280, якая сцвярджала, што яе муж не можа атрымаць зарплату ўжо трэці месяц. Ёй было растлумачана, як пры гэтым дзейнічаць у рамках працоўнага заканадаўства.

**19 снежня** старшыня Магілёўскага абласнога суда па выніках разгляду наглядной скаргі прынёс пратэст на рашэнне суда першай інстанцыі ад 17 чэрвеня 2013 года з прычыны непадведамаснасці справаў такога кшталту агульным судам. **27 снежня** Прэзідыум Магілёўскага абласнога суда задаволіў пратэст і адмяніў рашэнне суда.

**28 чэрвеня** першы намеснік старшыні КДБ Беларусі Ігар Сяргеенка паведаміў дзяржаўнаму інфармацыйнаму агенцтву БелТА, што расследванне крымінальнай справы аб "плюшавым дэсанце", якое доўжылася амаль год і па якім праходзілі абвінавачанымі грамадзяне Беларусі С. Башарымаў і А. Сурапін, завершанае. Адпаведна быў спынены іх крымінальны пераслед.

Адзін з абвінавачаных 20-гадовы студэнт Інстытута журналістыкі БДУ Антон Сурапін быў затрыманы і змешчаны ў СІЗА КДБ за тое, што першым выклаў на сайце *Belarusian News Photos* фотаздымкі плюшавых мядзведзікаў, якіх скінулі на тэрыторыі Беларусі са шведскага аднаматорнага самалёта **4 ліпені 2012 г.** Яго абвінавацілі ў саўдзеле ў незаконным перасячэнні дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь арганізаванай групай асоб (ч. 6 арт. 16 КК РБ і ч. 3 арт. 371 КК РБ). З СІЗА КДБ Сурапіна выпусцілі **ў жніўні 2012 года**, аднак да спынення справы ён знаходзіўся пад следствам. Арышт Сурапіна узначаліў дзесятку самых абсурдных арыштаў года ў рэйтынгу *Amnesty International*.

Раней, **11 чэрвеня**, ГА "БАЖ" звярнулася да старшыні КДБ Валерыя Вакульчыка з афіцыйным лістом, у якім цікавілася працэсуальным статусам Антона Сурапіна, а таксама тым, ці спынена ў дачыненні да яго крымінальная справа і калі так, то на якой падставе. **15 ліпеня** ГА "БАЖ" атрымала з Камітэта дзяржаўнай бяспекі РБ афіцыйны адказ на свой запыт. Першы намеснік старшыні КДБ Ігар Сергяенка пераадрасаваў БАЖ на сайт КДБ, дзе, нібыта, размешчана запатрабаваная інфармацыя. Між тым, адшукаць гэтую інфармацыю на сайце КДБ не ўдалося.

**2 ліпеня** дзяржаўнае рэспубліканскае прадпрыемства «Мінскэнерга» звярнулася ў Вышэйшы гаспадарчы суд з зыскам аб абароне дзелавой рэпутацыі да заснавальніка сайта *«ex-Press.by»* Людмілы Атчанашанка. Прадпрыемства патрабавала ад сайта абвергнуць размешчаны на ім артыкул аб парушэннях на прадпрыемстве, прынесці прабачэнні і выплаціць выдаткі на дапамогу адвакацкага бюро ў памеры каля 700 еўра.

**7 жніўня** ў Вышэйшым гаспадарчым судзе было дасягнута міравое пагадненне, у адпаведнасці з якім замест публікацыі абвяржэння і прабачэння, на сайце быў апублікаваны адказ істца, а сума першапачатковых судовых выдаткаў істца была размеркавана паміж бакамі пароўну.

**19 ліпеня** журналістка Ірына Халіп была вызваленая ад крымінальнага пакарання пасля заканчэння адтэрміноўкі прысуду. Такое рашэнне прыняў суд Партызанскага раёна Мінска (суддзя Рыта Шаграй ).

*Нагадаем, Ірына Халіп была затрымана разам са сваім мужам экс-кандыдатам у прэзідэнты Андрэем Саннікавым адразу пасля дэманстрацыі пратэсту супраць вынікаў прэзідэнцкіх выбараў **19 снежня 2010 года** і змешчана ў следчы ізалятар КДБ. **29 студзеня 2011 года** журналістку адпусцілі з СІЗА пад хатні арышт. **16 мая 2011 года** суд Заводскага раёна Мінска прызнаў І. Халіп вінаватай у «актыўным удзеле ў дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак» (масавыя акцыі пратэсту пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года) і прысудзіў да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на два гады. Адтэрміноўка прысуду, вынесенага І. Халіп, скончылася 21 ліпеня.*

**15 жніўня** былы відэаінжынер тэлеканала "БелМузТВ", які размясціў у эфіры тэлеканала парнаграфічны відэаролік, быў прызнаны вінаватым у здзяйсненні злачынства, прадугледжанага ч. 2 арт. 343 КК Рэспублікі Беларусь, і прысуджаны судом Партызанскага раёна Мінска да двух гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі агульнага рэжыму. Па рашэнні суда па месцы адбыцця пакарання да яго павінны быць ужытыя дадатковыя меры бяспекі і лячэння. Ён прызнаў сваю віну; свой учынак патлумачыў прыгнечаным псіхічным станам з-за сваркі з дзяўчынай.

*Нагадаем, інцыдэнт адбыўся **13 красавіка** ў дзённы час. **14 красавіка** Ўпраўленнем Следчага камітэта па г. Мінску ў дачыненні да відэаінжынера была ўзбуджаная крымінальная справа па абвінавачванні ў публічнай дэманстрацыі матэрыялаў парнаграфічнага зместу з выкарыстаннем сетак электрасувязі агульнага карыстання.*

**10 верасня** Крычаўскі раённы суд (суддзя Антаніна Качанава), разгледзеўшы зыск з боку КУП "Чэрыкаўская ПМК-280" да журналістаў незалежнай малатыражнай газеты "Вольны горад", задаволіў патрабаванне спагнаць з іх грашовыя выдаткі прадпрыемства на дзяржпошліну і аплату паслуг адваката, панесеныя пры разглядзе зыска ПМК аб абароне дзелавой рэпутацыі да газеты за артыкул "Крепостные?" **17 чэрвеня.** Згодна з рашэннем суда, выдавец "Вольнага горада" Уладзімір Кудраўцаў, яе рэдактар Сяргей Няроўны і журналіст Мікалай Гердзій павінныя выплаціць на карысць КУП "Чэрыкаўская ПМК-280" 945 тысячаў рублёў.

**23 верасня** суд Ленінскага раёна г. Гродна вызваліў ад пакарання журналіста Андрэя Пачобута, асуджанага **5 ліпеня 2011 года** да трох гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на два гады за "паклёп на Прэзідэнта" (ч. 1 арт. 367 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь). 20 верасня скончыўся перыяд адтэрміноўкі пакарання.

*Нагадаем , што **6 красавіка 2011 г.** журналіст быў затрыманы і змешчаны ў СІЗА Гродзенскай турмы № 1. Паводле версіі абвінавачвання, у 2010-2011 гадах Андрэй Пачобут "паклёпнічаў" на Прэзідэнта А.Лукашэнку ў тэкстах, размешчаных на старонках "Gazety Wyborczej", на сайце "Беларускі партызан " і ў сваім блогу poczobut.livejournal.com. Пасля вынясення прысуду **5 ліпеня 2011 г.** А. Пачобута вызвалілі ў зале суда пад падпіску аб нявыездзе. Журналіст не прызнаў сябе вінаватым і паспрабаваў абскардзіць рашэнне суда. **20 верасня 2011 г.** Гродзенскі абласны суд адхіліў касацыйную скаргу журналіста, і рашэнне набыло законную сілу.*

**22 кастрычніка** суд Крычаўскага раёна задаволіў зыск дзяржаўнага будаўнічага прадпрыемства КУП "Чэрыкаўская перасоўная механізаваная калона № 280" супраць супрацоўнікаў маланатыражнай газеты "Вольны горад" – галоўнага рэдактара Сяргея Няроўнага, заснавальніка Уладзіміра Кудраўцава і аўтара Мікалая Гердзія – у сувязі з дыскрэдытацыяй кіраўніцтва прадпрыемства і падрывам дзелавой рэпутацыі. Суддзя Антаніна Качанава абавязала журналістаў у бліжэйшым нумары даць абвяржэнне і кампенсаваць ПМК судовыя выдаткі ў памеры 1 млн. 100 тысяч рублёў. Прычынай для працэсу стала публікацыя "С опровержением подождём". У ёй паведамлялася, што з двума работнікамі прадпрыемства – Пятром Коневым і Вольгай Байгола, якія выступалі сведкамі пры разглядзе папярэдняй справы ПМК № 280 супраць "Вольнага горада" (**17 чэрвеня**), не былі заключаныя працоўныя кантракты, што парушае працоўнае заканадаўства. Згодна з артыкулам, пра гэта стала вядома ад саміх работнікаў, калі тыя давалі суду тлумачэнні.

**4 снежня** Магілёўскі абласны суд, разгледзеўшы касацыйную скаргу выдаўца газеты Уладзіміра Кудраўцава на рашэнне Крычаўскага раённага суда, стаў на бок выдання. Судовая калегія па грамадзянскіх справах адмяніла рашэнне райсуда і пастанавіла спыніць справу ў сувязі з яе непадведамаснасцю агульнаму суду.

**24 кастрычніка** суд Крычаўскага раёна (суддзя Антаніна Качанава) спыніў справу па зыску работнікаў КУП «Чэрыкаўская ПМК № 280» Пятра Конева і Вольгі Байгола супраць рэдакцыі малатыражнай газеты "Вольны горад". Зыскоўцы патрабавалі 16 млн. рублёў кампенсацыі маральнай шкоды, нанесенай публікацыяй "С опровержением подождём". У артыкуле сцвярджалася, што яны працуюць у ПМК без кантрактаў. Акрамя грашовай кампенсацыі, зыскоўцы прасілі суд прызнаць апублікаваныя звесткі не адпаведнымі рэчаіснасці і надрукаваць абвяржэнне. Аднак на асноўнае судовае пасяджэнне істцы не з'явіліся. Іх адвакат паведаміла, што яны адмовіліся ад сваіх прэтэнзій да газеты ў сувязі з тым, што "зніклі падставы для зыска".

**11 лістапада** ў судовай калегіі па справах інтэлектуальнай уласнасці Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь прайшло першае слуханне па зыску прыватнай кампаніі "БЕЛСАТ плюс" да акцыянернага таварыства "Польскае тэлебачанне” (SA "TVP"), якое з'яўляецца заснавальнікам спадарожнікавага тэлеканала "Белсат ТБ".

Уладальнік "БЕЛСАТ плюс" Андрэй Белякоў даказваў, што тэлебачанне "Белсат" незаконна выкарыстоўвае таварны знак, и патрабаў, каб спадарожнік "Astra" спыніў трансляцыю сігналу "Белсат ТБ". Дырэктар тэлеканала "Белсат ТБ" Агнешка Рамашэўска-Гузы выказала сумнеў, што фірма-зысковец была самастойнай у сваіх дзеяннях, і расцаніла гэта як ціск на незалежны канал.

***Даведка:*** *УП "БЕЛСАТ плюс" спецыялізуецца на продажы абсталявання для прыёму спадарожнікавага і кабельнага тэлебачання. Фірма была створана Сяргеем Лысянковым у 2003 г. пад назвай "Хайтех-маркет". У 2006 г. Лысянкоў прадаў таварны знак Андрэю Белякову, які пасля змяніў назву на УП "БЕЛСАТ плюс", у 2011 г. у спецыфікацыі фірмы з'явілася слова “ТБ”. Тэлеканал "Белсат ТБ" (Belsat TV) пачаў сваю работу ў эфіры ў снежні 2007 г. Тэлеканал і дамен сайта зарэгістраваныя ў Польшчы. Даменнае імя не зарэгістравана ў Беларусі і не адмініструецца на яе тэрыторыі, роўна як і тэлебачанне не транслюецца з беларускай тэрыторыі.*

У пачатку слуханняў афіцыйны прадстаўнік "Белсат ТБ" у Беларусі Міхась Янчук звярнуўся з хадайніцтвам аб пераносе працэсу, якое было задаволена.

**9 снежня** ў Вярхоўным судзе адбылося другое паседжанне па разгляду зыска. Прадстаўнік адказчыка, адвакат Ігар Дзячкоў, папрасіў адтэрмінаваць слуханні для азнаямлення з матэрыяламі справы, бо ён атрымаў даверанасць на прадстаўленне

інтарэсаў адказчыка напярэдадні слуханняў. У выніку яны былі перанесеныя на **20 студзеня 2014 года.**

**27 студзеня 2014 года** зыск дырэктара «Белсат плюс» Андрэя Белякова быў адхілены. Суд вырашыў, што зысковец не прадставіў доказаў парушэння выключнага права на таварны знак «Белсат» на тэрыторыі Беларусі.

**12 лістапада** суд Бялыніцкага раёна адхіліў зыск грамадскага актывіста Валерыя Вусіка аб спагнанні з казны дзяржпошлін, выплачаных ім пры абскарджанні рашэнняў па дзвюх адміністрацыйных справах супраць яго, прынятых **29 сакавіка.** Тады ён быў прызнаны вінаватым у незаконным распаўсюджванні малатыражнай газеты "Магілёўскі выбар" (арт. 22.9 КаАП) і ў паклёпе на старшыню дзяржаўнага сельскагаспадарчага прадпрыемства «Лебядзянка» Пятра Бялова (арт. 9.2 КаАП). Пазней гэтыя рашэнні былі адменены, а справы спыненыя *(гл. падрабязней: "Затрыманні журналістаў, судовы адміністрацыйны пераслед»).*

**18 лістапада** Вышэйшы гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь адхіліў заяву індывідуальнага прадпрымальніка Ігара Логвінава, які аспрэчваў спыненне ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць прыватнага выдавецтва "Логвінаў", і стаў на бок Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Паведамленне аб спыненні ліцэнзіі Ігар Логвінаў атрымаў **20 верасня.** Дакумент падпісала першая намесніца міністра інфармацыі Лілія Ананіч. Ліцэнзія была адкліканая "ў сувязі з дапушчанымі грубымі парушэннямі заканадаўства аб ліцэнзаванні". У прыватнасці, меўся на ўвазе выпуск выдавецтвам альбома "Прэс-фота Беларусі 2011", які суд Ашмянскага раёна прызнаў экстрэмісцкімі матэрыяламі **18 красавіка 2013 года.**

Кіраўніцтва выдавецтва палічыла, што "пазбаўленне ліцэнзіі адбылося незаконна і са шматлікімі парушэннямі", і таму накіравала адпаведны ліст міністру інфармацыі Алегу Праляскоўскаму, а пазней звярнулася ў суд. На думку намесніка старшыні БАЖ юрыста Андрэя Бастунца, заканадаўства не давала міністэрству права пазбаўляць выдавецтва "Логвінаў" ліцэнзіі, паколькі пры разглядзе справы аб прызнанні экстрэмісцкімі матэрыяламі альбома "Прэс-фота Беларусі 2011" выдавецтва нават не было прыцягнута да працэсу.

## Затрыманні журналістаў, судовы адміністрацыйны пераслед

5 студзеня суд Ленінскага раёна г. Гродна аштрафаваў за "несанкцыянаваны пікет" праваабаронцаў Віктара Сазонава, Рамана Юргеля і Ўладзіміра Хільмановіча на 15 базавых велічынь кожнага. Праваабаронцаў асудзілі за тое, што 10 снежня 2012 года – у Сусветны дзень правоў чалавека – яны сфатаграфаваліся з партрэтам палітвязня Алеся Бяляцкага і брашурамі «Ўсеагульная дэкларацыя правоў чалавека» ды размясцілі здымкі ў Інтэрнэце. Гродзенская міліцыя гэты медыйны факт палічыла «несанкцыянаваным пікетам», то бок адміністрацыйным правапарушэннем. 18 снежня 2012 года былі складзеныя пратаколы апытання, пасля чаго ўсе тры справы былі аб'яднаныя ў адзін адміністрацыйны працэс, які вёў суддзя Віталь Ляцко. У судзе не было прадстаўлена доказаў віны праваабаронцаў, не было знойдзена сведак, усё абвінавачванне грунтавалася на домыслах супрацоўнікаў міліцыі і фотаздымках, размешчаных у Інтэрнэце.

29 студзеня Гродзенскі абласны суд (суддзя Анатоль Заяц) адхіліў касацыйныя скаргі праваабаронцаў Віктара Сазонава, Рамана Юргеля і Уладзіміра Хільмановіча,

якія абскардзілі адміністрацыйныя штрафы за "несанкцыянаваны пікет", прысуджаныя ім 5 студзеня.

24 студзеня і 29 студзеня Наваполацкі гарадскі суд аштрафаваў на 500 тысяч рублёў Яўгена Парчынскага і на 2,5 мільёна рублёў Сяргея Малашэнку, якія размясцілі ў Інтэрнэце свае фотаздымкі з партрэтам палітвязня Алеся Бяляцкага і брашурамі «Ўсеагульная дэкларацыя правоў чалавека». Наваполацкія актывісты заявілі, што яны хацелі выказаць салідарнасьць з палітвязнем А. Бяляцкім, а таксама з гродзенскімі праваабаронцамі, асуджанымі за публікацыю аналагічнага фотаздымка.

28 студзеня намеснік начальніка міліцыі грамадскай бяспекі УУС Мінаблвыканкама Віталь Казлоў адказаў на запыт ГА "БАЖ", накіраваны міністру ўнутраных спраў з нагоды затрымання членаў арганізацыі журналістаў Лолы Бурыевай, Вячаслава Пяшко, Сяргея Кручкова, Мікалая Петрушэнкі і Сяргея Вазняка 24 снежні 2012 г. у Смалявічах, дзе яны збіраліся асвятляць сустрэчу дэпутата Ягора Лебядка з выбаршчыкамі ў мясцовым Доме культуры. У афіцыйным адказе было паведамлена, што міліцыянты дзейнічалі абгрунтавана: журналістаў затрымалі праз тое, што яны "мелі пры сабе буйнагабарытныя рэчы і адмовіліся даць іх для дагляду".

Характэрна, што адказ МУС супярэчыць лісту са Смалявіцкага РАУС, які атрымала Л. Бурыева. Супрацоўнікі раённага аддзела прынеслі ёй прабачэнні за нязручнасці, а таксама паведамілі, што з начальнікам аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі А. Мартысюком, які кіраваў затрыманнем, праведзена "індывідуальна-прафілактычная гутарка пра ветлівае і тактоўнае абыходжанне з грамадзянамі".

28 лютага ў Мінску каля будынка Нацыянальнай акадэміі навук падчас

правядзення штотыднёвага вулічнага відэаапытанне была затрыманая здымачная група інфармацыйнай кампаніі БелаПАН – карэспандэнт Ганна Афоніна, а таксама аператары Сяргей Сацюк і Васіль Сямашка. Журналістаў адвезлі ў УУС Першамайскага раёна для разбіральніцтва. Там у іх перапісалі пашпартныя дадзеныя, прагледзелі знятае відэа, пасля чаго папрасілі прабачэння за затрыманне і адпусцілі.

22 сакавіка актывісты Партыі БНФ Леанід Аўтухоў і Канстанцін Смолікаў былі затрыманыя, калі яны распаўсюджвалі партыйны бюлетэнь "Магістрат", і змешчаныя ў ізалятар часовага ўтрымання. Бюлетэні былі канфіскаваныя.

25 сакавіка суддзя Кастрычніцкага раённага суда горада Віцебска прызнала Л. Аўтухова і К. Смолікава вінаватымі ў парушэнні заканадаўства аб масавых мерапрыемствах (нібыта ў партыйных бюлетэнях ўтрымліваліся заклікі да арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу) і прысудзіла абодвум па пяць сутак арышту.

17 мая суд Кастрычніцкага райсуда Віцебска (суддзя Алена Протас) прызнаў Леаніда Аўтухова і Канстанціна Смолікава вінаватымі ў парушэнні закона "Аб сродках масавай інфармацыі" і аштрафавала кожнага на 30 базавых велічынь (3 млн. рублёў). Новая адміністрацыйная справа была распачатая супраць іх у сувязі з тым, што, паводле дадзеных міліцыі, колькасць канфіскаваных асобнікаў бюлетэня перавышала заяўлены наклад (гэта значыць была больш за 299 асобнікаў), хаця бюлетэні супрацоўнікі міліцыі ў прысутнасці затрыманых не пералічвалі і падчас суду сведчылі, ужываючы выразы "вялікі стос" ці "тоўсты пачак".

24 сакавіка відэааператара газеты "Наша Ніва" Таццяну Гаўрыльчык затрымалі ў падземным пераходзе ля Акадэміі Навук перад масавай вулічнай акцыяй у Дзень Волі. Інцыдэнт адбыўся, калі журналістка здымала на відэа супрацоўнікаў міліцыі, якім гэта не спадабалася. Спачатку міліцыянты забралі ў яе рэдакцыйнае пасведчанне і сышлі кудысьці "раіцца з начальствам". Потым журналістку адвялі ў апорны пункт. Адпусцілі яе прыблізна праз гадзіну без складання пратаколу.

29 сакавіка суд Бялыніцкага раёна (суддзя Уладзімір Гуз) аштрафаваў грамадскага актывіста Валерыя Вусіка, жыхара вёскі Лебядзянка, на 50 базавых велічынь (каля 500 еўра) сукупна за незаконнае распаўсюджванне малатыражнай газеты "Магілёўскі выбар" (арт. 22.9 КаАП) і за паклёп на старшыню дзяржаўнага сельскагаспадарчага прадпрыемства «Лебядзянка» Пятра Бялова (арт. 9.2 КаАП). В. Вусік, які быў не так даўно дэпутатам райсавета і супрацоўнікам сельгаскааператыва "Лебядзянка", выступіў у газеце "Магілёўскі выбар" з крытычным артыкулам у адрас кіраўніцтва прадпрыемства пад назвай "Што змянілася за апошнія некалькі гадоў у СВК "Лебядзянка". Пасля гэтага ,

26 лютага, участковым інспектарам у дачыненні да яго былі складзеныя два пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні, якія сталі падставамі для судовых рашэнняў.

25 красавіка Магілёўскі абласны суд (суддзя Павел Клімаў), разгледзеўшы касацыйныя скаргі В.Вусіка, пакінуў пастановы райсуду без зменаў.

1 жніўня на падставе пратэсту старшыні Ігара Прашко, прынесенага па выніках разгляду наглядных скаргаў, Прэзідыум Магілёўскага абласнога суда пастанавіў адмяніць папярэднія судовыя рашэнні і накіраваць справы на новы разгляд у суд Бялыніцкага раёна да іншага суддзі.

16 верасня суд Бялыніцкага раёна (суддзя Аксана Загорская), нанова разгледзеўшы адміністрацыйныя справы Валерыя Вусіка пасля адмены папярэдніх судовых рашэнняў, пастанавіў спыніць іх, адхіліўшы міліцэйскія пратаколы.

30 сакавіка ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі карэспандэнтку “Радыё Свабода" Іну Студзінскую. Затрыманне адбылося каля Купалаўскага тэатра, калі журналістка брала інтэрв'ю ў гледачоў першага пасля рэканструкцыі будынка спектакля. У ліку гледачоў у той вечар у тэатры знаходзіўся Аляксандр Лукашэнка. Міліцыянты патлумачылі затрыманне неабходнасцю праверкі дакументаў і адвялі журналістку ў апорны пункт на станцыі метро "Купалаўская". Там у яе перапісалі пашпартныя дадзеныя і пасля адпусцілі.

11 красавіка ў Мінску міліцыянты на некаторы час затрымалі супрацоўніка “Радыё Свабода" палітолага Валерыя Карбалевіча, які накіроўваўся на сустрэчу ў амбасаду Германіі. У журналіста не аказалася дакументаў, таму міліцыянеры-вартаўнікі выклікалі нарад міліцыі. Пасля перамоваў з праваахоўнікамі нямецкім дыпламатам ўсё-такі ўдалося дамагчыся, каб запрошанага госця прапусцілі ў будынак амбасады.

19 красавіка ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі відэааператара інфармацыйнай кампаніі БелаПАН Сяргея Сацюка і карэспандэнта “Радыё Свабода” Алега Груздзіловіча падчас выканання імі прафесійных абавязкаў. Інцыдэнт адбыўся раніцай каля 10.15 у цэнтры сталіцы, калі журналісты асвятлялі пікет прадстаўнікоў грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры. Журналістаў даставілі ў УУС Маскоўскага раёна.

Па словах Сяргея Сацюка, міліцыянты выдалілі з карты памяці яго відэакамеры ўсе матэрыялы і запатрабавалі напісаць тлумачальную запіску. Адпусцілі яго прыкладна праз тры гадзіны пасля затрымання.

Алега Груздзіловіча ў міліцыі сфатаграфавалі, знялі на відэа, прымусілі прайсці працэдуру дактыласкапіі (нягледзячы на тое, што яго адбіткі пальцаў ужо былі ў базе дадзеных) і ўзялі тлумачэнні. Пратакол у дачыненні да журналіста не складалі, але таксама забралі камеру і выдалілі з яе ўсе відэазапісы. Адпусцілі прыкладна праз чатыры гадзіны пасля затрымання.

26 красавіка ў Астраўцы (Гродзенская вобласць) міліцыянты затрымалі незалежных журналістаў Насту Яўмен і Аляксандра Баразенку. У дзень гадавіны катастрофы на Чарнобыльскай АЭС журналісты асвятлялі паездку апазіцыі на месца, дзе плануецца будаўніцтва новай АЭС. Шлях на будаўнічую пляцоўку ім перагарадзілі супрацоўнікі КДБ і міліцыі. Журналістам не дазволілі здымаць і адвезлі ў Астравецкі РАУС, дзе ўзялі тлумачэнні і выдалілі запіс з відэакамеры. БАЖ накіравала ў РАУС пацверджанне, што затрыманыя журналісты з'яўляюцца членамі арганізацыі. Пасля гэтага Наста Яўмен і Аляксандр Баразенка былі вызваленыя.

26 красавіка ў Мінску былі затрыманыя карэспандэнты газеты "Наша Ніва" Аксана Рудовіч і Ірына Арахоўская. Затрыманне адбылося пасля санкцыянаванай вулічнай акцыі "Чарнобыльскі шлях". Журналісткі знялі на відэа сілавое затрыманне аднаго з удзельнікаў акцыі, і гэта стала падставай для затрымання. Па іх словах, на прыпынку каля завода "Гарызонт" у тралейбус увайшлі супрацоўнікі праваахоўных органаў. Адзін з іх паказаў рукою на журналістак: "Гэтая і гэтая", – пасля чаго іх вывелі і пасадзілі ў аўтамабіль, які стаяў побач. Сілавікі не прадставіліся і не паведамілі, куды іх вязуць, забралі мабільныя тэлефоны. У машыне прагледзелі касеты журналістак з запісам акцыі, а таксама фотаапарат і карты памяці мабільных тэлефонаў, праверылі дакументы. Карэспандэнтак даставілі ў Савецкае РУУС, адкуль адпусцілі прыкладна праз гадзіну без складання пратаколаў.

26 красавіка ў Мінску пасля заканчэння шэсця "Чарнобыльскі шлях" (каля 22.30) былі затрыманыя журналісты Генадзь Барбарыч і Аляксандр Ярашэвіч. Іх адвезлі ў Савецкае РУУС, дзе склалі пратаколы аб непадпарадкаваньні супрацоўнікам міліцыі (арт. 23.4 КаАП). Да суда журналістаў больш за двое сутак утрымлівалі ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на вул. Акрэсціна, пры гэтым супрацоўнікі ізалятара адмаўляліся прымаць перадачы для затрыманых журналістаў.

29 красавіка суд Савецкага раёна Мінска (суддзя Кірыл Палулех) прызнаў А. Ярашэвіча і Г. Барбарыча вінаватымі і прысудзіў ім па трое сутак арышту (фактычна ўжо адбытыя да моманту разгляду справы). У той жа дзень журналісты былі вызваленыя.

31 мая Мінскі гарадскі суд (суддзя Валерый Камісараў) пакінуў у сіле рашэнне суда першай інстанцыі.

6 мая ўвечары ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі незалежных журналістаў Зміцера Галко і Аляксандра Ярашэвіча. Яны вярталіся з вул. Акрэсціна, дзе сустракалі асоб, якія адбылі адміністрацыйны арышт за ўдзел у "Чарнобыльскім шляху", калі побач спыніўся спецназаўскі мікрааўтобус. Журналістаў затрымалі, адвезлі ў Маскоўскае РУУС, дзе склалі пратаколы аб парушэнні двух артыкулаў КаАП – 23.4 (непадпарадкаванне міліцыі) і 17.1 (хуліганства). Ноч да суда іх ўтрымлівалі пад вартай.

7 мая суддзя Маскоўскага райсуда Мінска Яўген Хаткевіч асудзіў Зміцера Галко на 10 сутак арышту. У якасці сведак выступілі міліцыянты. Іх паказанні супярэчылі адно аднаму і падпісаным імі ж рапартам.

7 мая суддзя Маскоўскага райсуда Таццяна Матыль прысудзіла Аляксандру Ярашэвічу 12 сутак арышту. Сведкамі выступілі тыя ж супрацоўнікі міліцыі, якія сведчылі і па справе З. Галко.

21 мая Мінскі гарадскі суд (суддзя Уладзімір Карноў), разгледзеўшы касацыйныя скаргі па справах журналістаў А. Ярашэвіча і З. Галко, пакінуў у сіле рашэнні суда першай інстанцыі.

5 чэрвеня ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі грамадскую актывістку кампаніі "Наш Дом" Наталлю Лявонаву за распаўсюд газеты «Наш Дом-инфо» (зарэгістраванай у Расійскай Федэрацыі, паколькі ў Беларусі зарэгістраваць гэтае выданне не атрымалася). Каля 16.00 яе даставілі ў аддзяленне міліцыі Фрунзенскага раёна, вызвалілі прыкладна праз дзве гадзіны пасля затрымання. Як паведаміла Н. Лявонава, пратакол затрымання міліцыянты не складалі, але ўзялі пісьмовае тлумачэнне, запалохвалі КДБ і следчым ізалятарам.

16 чэрвеня быў затрыманы незалежны тэлежурналіст Алесь Сіліч. Ён вёў здымкі ў Стаўбцоўскім раёне, дзе, па некаторых звестках, быў заўважаны падазроны мор свінняў. Міліцыянты даставілі журналіста ў Стаўбцоўскае РАУС, дзе склалі на яго пратакол, а пасля адвезлі на чыгуначную станцыю.

27 чэрвеня ў Мінску каля аднаго з гандлёвых цэнтраў былі затрыманыя журналісты Ігар Карней (“Радыё Свабода”), Алесь Сівы ("Народная воля") і карэспандэнт інтэрнэт-партала TUT.by Наталля Касцюкевіч. Разам з журналістамі быў затрыманы лідэр РГА "Перспектыва" Анатоль Шумчанка.

Журналісты рыхтавалі матэрыял пра агульнанацыянальны страйк прадпрымальнікаў, які праходзіў у той дзень. Па дарозе ад рынку "Ждановічы" ў ГЦ "Паркінг" машыну з журналістамі заблакавалі невядомыя людзі ў цывільным. Яны выцягнулі журналістаў з машыны, перасадзілі ў мікрааўтобус і адвезлі ў Цэнтральны РУУС. Пратрымаўшы каля гадзіны, журналістаў адпусцілі без складання пратаколаў.

2 ліпеня ў Рэчыцы міліцыянты затрымалі незалежную тэлежурналістка Ларысу Шчыракову, якая прысутнічала на сходзе прадпрымальнікаў мясцовага рынку "Славянскі". Капітан міліцыі Дзмітрый Свірыдзенка зацікавіўся, на якой падставе яна праводзіць відэаздымкі і запатрабаваў яе пасведчанне. У адказ журналістка паказала пасведчанне сябра ГА "БАЖ". Міліцыянт перапісаў звесткі, і праз некаторы час з Рэчыцкага РАУС іх зверылі тэлефонным званком у мінскі офіс БАЖ. Пасля гэтага Л. Шчыракову адпусцілі. Правяралі дакументы і ў старшыні Гомельскай арганізацыі БАЖ Анатоля Гатоўчыца.

9 ліпеня ў Віцебску незалежную журналістку Алену Сцяпанаву выклікалі ў Кастрычніцкі РАУС, дзе азнаёмілі з адміністрацыйным пратаколам па арт. 22.9 ч. 2 КаАП. Згодна з дакументам, А. Сцяпанава на працягу доўгага перыяду "ажыццяўляла прафесійную дзейнасць журналіста замежнага СМІ" “Радыё Свабода” "без адпаведнай акрэдытацыі".

12 ліпеня суд Кастрычніцкага раёна Віцебска разгледзеў адміністрацыйную справу журналісткі Алены Сцяпанавай і накіраваў пратакол на дапрацоўку. Справа была адкладзеная на нявызначаны тэрмін. Між тым, артыкул 22.9 ч. 2 КаАП, на падставе якога распачатая справа, гучыць як "парушэнне ўстаноўленага парадку рассылкі абавязковых бясплатных асобнікаў перыядычных выданняў, распаўсюджанне эратычных выданняў, апублікавання СМІ абвяржэння, а таксама незаконны выраб і распаўсюджанне прадукцыі СМІ" і не ўтрымлівае адказнасці за працу без акрэдытацыі.

25 ліпеня ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі больш чым на гадзіну карэспандэнта незалежнай газеты "Белорусы и рынок" Ігара Ільяша. Журналіст прысутнічаў на судовым пасяджэнні па справе аб вызваленні ад пакарання экс-кандыдата на пасаду прэзідэнта Уладзіміра Някляева, а пасля яго заканчэння накіраваўся на аўтобусны прыпынак. Па дарозе да І. Ільяша падышлі тры супрацоўнікі Маскоўскага РУУС і папрасілі прайсці з імі ў мікрааўтобус, які стаяў побач. Сваё патрабаванне міліцыянты патлумачылі тым, што ён нібыта "патрапіў у аператыўныя здымкі схаванай камерай, аналіз запісу якіх выявіў нейкія правапарушэнні".

Журналіста даставілі ў Маскоўскае РУУС, дзе заявілі, што ён затрыманы для высвятлення асобы, "паколькі прад'явіў пасведчанне без пашпарта". Міліцыянты цікавіліся, дзе ён знаходзіўся ўвечары напярэдадні і хто можа пацвердзіць яго словы. Пры гэтым яны не склалі пратакол затрымання або апытання, ніякіх папер падпісаць не прапаноўвалі.

26 ліпеня ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі карэспандэнта агенцтва БелаПАН Захара Шчарбакова, відэааператара БелаПАН Андрэя Корсака і фотакарэспандэнта газеты "Наша Ніва" Сяргея Гудзіліна. Інцыдэнт адбыўся каля сталічнага ўнівермага "Беларусь", калі журналісты асвятлялі акцыю актывістаў зарэгістраванай у Латвіі моладзевай арганізацыі "Альтэрнатыва" ў сувязі з гадавінай абвяшчэння незалежнасці Беларусі 27 ліпеня 1990 г. Супрацоўнікі сілавых органаў у цывільным запхнулі журналістаў разам з удзельнікамі акцыі ў мікрааўтобусы.

Па словах З. Шчарбакова, недзе палутары гадзіны яны сядзелі ў аўтобусах каля Партызанскага РУУС Мінска. Тэлефанамі было забаронена карыстацца. Затым затрыманых журналістаў адвялі ў актавую залю РУУС, запісалі іх асабістыя дадзеныя. У А. Корсака і С. Гудзіліна з прафесійнай апаратуры выдалілі ўсе фота- і відэазапісы, а таксама праверылі наяўнасць іншых электронных носьбітаў інфармацыі. Адпусцілі журналістаў прыкладна праз тры гадзіны пасля затрымання.

20 жніўня ў Магілёве каля прахадной ААТ "Магілёўхімвалакно" быў затрыманы незалежны журналіст Алесь Асіпцоў, які па заданню рэдакцыі апытваў работнікаў прадпрыемства. Чалавек, які назваўся прадстаўніком ідэалагічнай службы "Магілёўхімвалакна", папрасіў журналіста прайсці з ім. У адным з пакояў на прахадной у А. Асіпцова ўзяў тлумачэнні супрацоўнік міліцыі. Пратакола затрымання ён не складаў, але заявіў, што ні фатаграфаваць, ні праводзіць якія-небудзь апытанні на тэрыторыі прадпрыемства, да якой таксама адносіцца прылеглая да яго пляцоўка, нельга.

24 жніўня ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі відэааператара інфармкампаніі БелаПАН Васіля Сямашку падчас выканання ім рэдакцыйнага задання. В. Сямашку затрымалі ў момант, калі ён здымаў актывістаў "Гавары праўду!", якія выходзілі з міліцэйскага будынка – у першай палове дня яны былі затрыманыя ў офісе кампаніі і дастаўлены ў РУУС.

Журналіста даставілі ў Кастрычніцкае РУУС, дзе пратрымалі каля гадзіны і выдалілі з камеры зняты відэаматэрыял – інтэрв'ю з намеснікам старшыні грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду!" Андрэем Дзмітрыевым. Ніякіх дакументаў у дачыненні да журналіста ў міліцыі не складалі.

4 верасня ў Бабруйску супрацоўнікі міліцыі з ужываннем фізічнай сілы затрымалі мясцовага блогера Алега Жалнова і яго сына, калі тыя здымалі на відэа няправільную паркоўку машын на тратуары каля будынка мясцовага ДАІ. Па словах Жалнова, аўтамабілі належалі супрацоўнікам аддзела наркакантролю, які знаходзіцца ў тым жа будынку. Блогер звярнуўся з вуснай заявай з гэтай нагоды да інспектара ДАІ Аляксандра Бутоўскага, які таксама заехаў у той час на тратуар. Інспектар выклікаў па тэлефоне іншых супрацоўнікаў ДАІ. Тыя, прыбыўшы на месца, спрабавалі забараніць відэаздымкі, а пасля затрымалі абодвух Жалновых, абвінаваціўшы іх у парушэнні п. 35 Правілаў дарожнага руху (неабгрунтаванае стварэнне перашкодаў руху транспартнага сродку). З ужываннем сілы абодвух зацягнулі ў будынак і павалілі на падлогу, надзеўшы кайданкі. Затым іх даставілі ў міліцыю, дзе правялі асабісты дагляд і забралі некаторыя рэчы: тэлефоны, відэакамеру, смартфон, банкаўскія карткі, пропуск на працу, пашпарты. Затрыманых адпусцілі праз тры гадзіны, пасля таго, як следчы ўзяў у іх тлумачэнні. Адабраныя рэчы вярнулі ўвечары 5 верасня, але відэакасету і карту памяці смартфона, дзе былі зафіксаваныя падзеі ля будынка ДАІ, так і не вярнулі.

Як сцвярджаў А. Жалноў, у ДАІ яму пагражалі "пасадзіць" па крымінальнай справе – за непадпарадкаванне і нанясенне цялесных пашкоджанняў супрацоўніку міліцыі. Па словах А. Жалнова, падчас затрымання з імі абыходзіліся настолькі брутальна, што яму пасля давялося выклікаць хуткую дапамогу. Пасля вызвалення ён прайшоў судова-медыцынскую экспертызу і накіраваў заявы ў пракуратуру і на імя міністра ўнутраных спраў.

11 верасня А. Жалнова прымусілі прайсці судова-псіхіятрычную экспертызу. Для гэтага позвай яго выклікалі ў ДАІ у сувязі з адміністрацыйнай справай, заведзенай на яго нібыта за непадпарадкаваньне супрацоўнікам ДАІ 4 верасня. Па выніках экспертызы блогер быў прызнаны псіхічна здаровым.

1 лістапада ў судзе Бабруйскага раёна і г. Бабруйска было вынесена рашэнне па адміністрацыйнай справе блогера А. Жалнова. Суддзя Наталля Чарапуха, выслухаўшы паказанні сведак, прагледзеўшы відэа (у тым ліку самога А. Жалнова, канфіскаванае Следчым камітэтам і затым прадастаўленае суду) прызнала яго вінаватым у непадпарадкаваньні законнаму распараджэнню альбо патрабаванню службовай асобы пры выкананні ёю службовых паўнамоцтваў (арт. 23.4 КаАП) і прысудзіла штраф у памеры 20 базавых велічынь.

5 снежня Магілёўскі абласны суд пакінуў у сіле рашэнне суда Бабруйскага раёна і г. Бабруйска. Суддзя Рыгор Качалаў пакінуў без разгляду ўсе пададзеныя блогерам А. Жалновым хадайніцтвы.

Раней у аб'ектыў блогера не раз траплялі супрацоўнікі праваахоўных органаў. Міліцыянты тройчы спрабавалі прыцягнуць яго да адказнасці па адміністрацыйных справах. Двойчы Бабруйскі суд выносіў рашэнні на карысць А. Жалнова, а трэцяга разу супрацоўнікі УУС самі адмовіліся ад прэтэнзій.

14 верасня ў Мінску былі затрыманыя карэспандэнт “Радыё Свабода” Алег Груздзіловіч і журналісткі "Нашай Нівы" Ірына Арахоўская і Ганна Бадзяка, якія збіраліся асвятляць акцыю памяці памерлага ў СІЗА зняволенага Ігара Пціčкіна. Супрацоўнікі сілавых органаў у цывільным затрымалі іх разам з удзельнікамі акцыі на шляху да будынка СІЗА на вуліцы Валадарскага. Журналістаў адвезлі ў Цэнтральнае РУУС, дзе пратрымалі каля трох гадзін, узялі адбіткі пальцаў і выдалілі ўсе фота- і відэаматэрыялы з іх прафесійнай тэхнікі.

5 кастрычніка ў Дзяржынску на цэнтральным гарадскім рынку супрацоўнікі міліцыі затрымалі актывіста кампаніі "Разам для Беларусі" Аляксандра Тарнагурскага ў момант, калі ён распаўсюджваў сярод мінакоў газету "Еўрапейскі Выбар". А. Тарнагурскага адвезлі ў Дзяржынскае РАУС, дзе пасля пераліку асобнікаў друкаваную прадукцыю канфіскавалі, пра што быў складзены пратакол вынятку. Пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні падчас затрымання не складаўся.

7 кастрычніка ў Віцебску быў затрыманы распаўсюджвальнік незалежных СМІ Барыс Хамайда. Супрацоўнікі Чыгуначнага РАУС абвінавацілі яго ў правядзенні несанкцыянаванага пікету і адвезлі ў аддзяленне міліцыі. Адпусцілі прыкладна праз 30 хвілін без складання пратаколу.

Барыс Хамайда – адзіны распаўсюджвальнік недзяржаўнай прэсы ў Віцебску, хто робіць гэта адкрыта. Па буднях ён выходзіць у цэнтр горада і раскрывае свой бел-чырвона-белы парасон над столікам з незалежнымі СМІ.

19 кастрычніка раніцай у Мінску на платформе чыгуначнага вакзала міліцыя затрымала журналістаў, якія збіраліся асвятляць вяртанне палітыка і публіцыста Паўла Севярынца, якога вызвалілі пасля адбыцця трох гадоў абмежавання волі (П .Севярынец быў асуджаны за ўдзел у масавых акцыях пратэсту пасля прэзідэнцкіх выбараў 19

снежня 2010 г.). У ліку затрыманых былі: журналісты "Еўрарадыё" Алесь Пілецкі і Віталь Ругайн, фатограф Аляксандр Васюковіч, фотакарэспандэнт "Нашай Нівы" Сяргей Гудзілін, карэспандэнты БелаПАН Андрэй Корсак і Захар Шчарбакоў, прэс-сакратар ГА "БАЖ" Барыс Гарэцкі, незалежныя журналісты Ягор Маёрчык, Дзяніс Носаў і Надзея Гацак.

Міліцыянты падышлі да журналістаў і заявілі, што тыя выклікаюць у іх падазрэнні. Наяўнасць прэс-картак праваахоўнікаў не спыніла. Усіх затрыманых завялі ў дзяжурную частку вакзала для праверкі дакументаў. Міліцыянты абыходзіліся з журналістамі надзвычай груба, указваючы на бессэнсоўнасць куды-небудзь скардзіцца. Вызвалілі журналістаў прыкладна праз гадзіну, пасля таго як П. Севярынец сышоў з цягніка і пакінуў тэрыторыю вакзала, – без тлумачэння прычыны затрымання. У дзяжурную частку з'явіўся начальнік ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандр Барсукоў, яшчэ раз праверыў дакументы і даў загад усіх адпусціць.

23 кастрычніка старшыня ГА "БАЖ" Жанна Літвіна і яе намеснік Андрэй Бастунец сустрэліся з начальнікам ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандрам Барсуковым з нагоды масавага затрымання журналістаў 19 кастрычніка на чыгуначным вакзале ў Мінску; абмяркоўваўся таксама агульны стан ўзаемаадносін міліцыі і прэсы.

22 лістапада прэс-сакратара ГА "БАЖ" Барыса Гарэцкага выклікалі для тлумачэнняў у аддзел Следчага камітэта па Кастрычніцкім раёне Мінска. Следчы Надзея Аляксандрава паведаміла, што праводзіць праверку па скарзе журналіста датычна затрымання 19 кастрычніка прадстаўнікоў СМІ.

4 снежня Следчы камітэт Беларусі паведаміў, што скончыў праверку па факце масавага затрымання журналістаў 19 кастрычніка на падставе скаргі Барыса Гарэцкага. СК праінфармаваў, што ў дзеяннях супрацоўнікаў міліцыі не знойдзена фактаў перашкоджання законнай прафесійнай дзейнасці журналістаў (арт. 198 КК РБ), ва ўзбуджэнні крымінальнай справы адмоўлена. Згодна з матэрыяламі праверкі, міліцыянты затрымлівалі журналістаў, "каб не дапусціць масавых беспарадкаў".

29 кастрычніка ў Мінску былі затрыманыя журналісты, якія асвятлялі ўскладанне грамадскімі актывістамі кветак на магілы ахвяраў сталінскіх рэпрэсій на Кальварыйскіх могілках. Сярод затрыманых былі Наталля Валакіда, Сяргей Краўчук, Наталля Касцюкевіч (Беніцэвіч), Дзяніс Носаў і Аляксандр Корсакаў. Усіх журналістаў разам з актывістамі даставілі ва ўпраўленне ўнутраных спраў Фрунзенскага раёна, дзе праверылі іх дакументы і асабістыя рэчы. Прыкладна праз паўтары гадзіны пасля затрымання журналістаў вызвалілі.

Дырэктар Кальварыйскіх могілак Сяргей Красноў пацвердзіў, што міліцыю выклікаў ён, паколькі яго не апавясцілі пісьмова аб правядзенні акцыі.

29 кастрычніка ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі незалежных журналістаў Аляксандра Баразенку і Марыю Арцыбашаву, калі яны рабілі вулічнае відэа-апытанне на тэму моладзевых арганізацый у Беларусі. Інцыдэнт здарыўся побач са станцыяй метро "Першамайская". Журналістаў затрымаў ахоўнік метрапалітэна і выклікаў нарад міліцыі. А. Баразенку і М. Арцыбашаву адвезлі ў Ленінскае РУУС, адтуль – у пракуратуру Ленінскага раёна Мінска, пасля зноў у РУУС. Затрыманых журналістаў вызвалілі прыкладна праз тры гадзіны. З іх узялі тлумачэнні і паведамілі, што яны павінны з'явіцца на гутарку ў пракуратуру, калі атрымаюць адпаведнае запрашэнне.

6 лістапада ў Мінску каля цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў (ЦІП) на вул. Акрэсціна былі затрыманыя журналісты, якія асвятлялі вызваленне грамадскага актывіста Юрыя Рубцова (ён адбываў трое сутак арышту за тое, што выйшаў у футболцы з надпісам "Лукашэнка, сыходзь"). У выніку тры гадзіны ў РУУС Маскоўскага раёну правялі карэспандэнт газеты "Новы час" Вячаслаў Пяшко (меў пры

сабе пасведчанне), фрыланс- журналістка Анастасія Рэзнікава, а таксама кінарэжысёр Вольга Нікалайчык. Міліцыянты перапісалі ва ўсіх пашпартныя дадзеныя, правялі дагляд рэчаў, а таксама знішчылі з відэакасеты ўсе запісы сустрэчы актывіста.

26 лістапада на ўездзе ў Глыбокае (Віцебская вобл.) супрацоўнікі ДАІ затрымалі незалежных журналістаў Вячаслава Пяшко і Анастасію Рэзнікаву, якія ехалі здымаць відэасюжэт для сайта газеты "Новы час". Праверыўшы дакументы, міліцыянты спачатку сказалі, што іх насцярожвае нумар кузава машыны. Пасля праверылі багажнік і папрасілі праехаць з імі ў РУУС, паколькі пасажыры машыны нібыта падыходзілі пад апісанне махляроў, якія знаходзяцца ў вышуку. Прыкладна праз паўгадзіны абодвух журналістаў вызвалілі, перапісаўшы іх пашпартныя дадзеныя і нумары тэлефонаў.

## Адабранне, псаванне, канфіскацыя тэхнікі

**10 студзеня** стала вядома, што журналіст аўстралійскага тэлеканала SBS Амас Робертс атрымаў адказы з Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь (ад 12.10.12 г.) і пракуратуры Мінскай вобласці (ад 15.10.12 г.) на скаргі на дзеянні супрацоўнікаў мытні аэрапорта "Мінск-2". З дакументаў вынікала, што няма ніякіх зрухаў у справе вяртання тэхнікі і носьбітаў інфармацыі, канфіскаваных **21 верасня 2012 года** падчас мытнага дагляду. У адказе з Дзяржаўнага мытнага камітэта паведамлялася, што носьбіты інфармацыі і абсталяванне накіраваныя для правядзення мытнай экспертызы на прадмет наяўнасці ў іх забароненай да вывазу інфармацыі без указання тэрмінаў правядзення экспертызы.

**10 студзеня** ГА "БАЖ" звярнулася з афіцыйным электронным запытам да старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь з просьбай паведаміць, якім нарматыўным дакументам вызначаецца пералік інфармацыі, забароненай да перамяшчэння праз мытную мяжу.

*Нагадаем, А. Робертс працаваў у Беларусі ў верасні 2012 г. згодна з афіцыйнай акрэдытацыяй. У прыватнасці, журналіст здымаў сюжэт пра шведскі "плюшавы дэсант".* ***21 верасня 2012 г.*** *падчас праходжання ім мытнага кантролю ў аэрапорце "Мінск-2" для выезду з краіны прадстаўнікі мытні і невядомыя ў цывільным, якія прысутнічалі пры гэтым, канфіскавалі ў яго ўсю наяўную апаратуру і носьбіты інфармацыі – нават мабільны тэлефон.*

**У лютым 2013 года** Амас Робертс атрымаў электронны ліст з амбасады Аўстраліі ў Маскве. У ім паведамлялася, што "беларускія ўлады скончылі свае мытныя фармальнасці" і што цяпер ён сам альбо яго давераная асоба могуць забраць абсталяванне ў аэрапорце "Мінск-2".

**30 кастрычніка** стала вядома, што мытня аэрапорта "Мінск-2" вярнула рэчы, канфіскаваныя ў Амаса Робертса. Іх забраў па даверанасці беларускі журналіст Ілля Кузняцоў для адпраўкі поштай у Аўстралію. Ці была выдаленая якая-небудзь інфармацыя з носьбітаў і ці знайшлі мытнікі што-небудзь, што апраўдвала б канфіскацыю, невядома.

**17 жніўня** ў Светлагорску супрацоўнікі міліцыі забралі камп'ютар у блогера і грамадскага актывіста Генадзя Жулегі, хоць крымінальная справа ў дачыненні да яго не была распачатая, пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні не складаўся. Перад гэтым у яго кватэры правялі агляд, санкцыянаваны пракурорам. Падставай таму стаў размешчаны **6 жніўня** ў сетцы Інтэрнэт відэаролік пра стан гарадскіх дарог і пра новы дом старшыні мясцовага райвыканкама. Паводле тлумачэнняў міліцыянтаў, жонка

старшыні Светлагорскага райвыканкама Вольга Максіменка напісала заяву, што гэтым ролікам ён абразіў гонар і годнасць яе сям'і, а інфармацыя на відэа носіць паклёпніцкі характар. У сувязі з гэтым яна запатрабавала прыцягнуць блогера да адказнасці. Міліцыянты паведамілі Г. Жулегу, што яго камп’ютар будуць правяраць, а потым будзе вырашацца пытанне аб прыцягненні яго да адказнасці.

**17 кастрычніка** Генадзь Жулега паведаміў, што міліцыя так і не вярнула яму канфіскаваныя за два месяцы да гэтага "для праверкі" сістэмны блок камп’ютара і мадэм, хоць ён звяртаўся да пракурора Гомельскай вобласці Сяргея Аземшы са скаргай на незаконнае адабранне ў яго тэхнікі.

**24 кастрычніка** ў Бабруйску ў кватэры мясцовага блогера Алега Жалнова міліцыянты правялі агляд, у выніку якога забралі ўсе электронныя носьбіты інфармацыі. Падставай для агляду стала заява маёра ДАІ УУС Бабруйскага гарвыканкама Яўгена Сераштанава аб тым, што ў сетцы Інтэрнэт у 2012–2013 гадах невядомая асоба – меркавана Алег Жалноў – размясціла аўдыё- і відэаматэрыялы, якія абражаюць яго гонар і годнасць і шкодзяць яго дзелавой рэпутацыі. Я. Сераштанаў прасіў распачаць супраць блогера крымінальную справу. “Агляд” доўжыўся сем гадзін. У выніку з кватэры блогера вынеслі ноўтбук, тры хард-драйвы, мадэм, флэш-карты, CD, мабільны тэлефон. Па словах А. Жалнова, агляд праходзіў з грубымі парушэннямі крымінальна-працэсуальнага заканадаўства. У прыватнасці, міліцыянты праводзілі яго ў адсутнасць уласніка жылля, яны не пакінулі А. Жалнову ніякіх дакументаў, якія сведчылі б аб правядзенні агляду і адабрання ў яго кватэры і інш. У выніку ён унёс у пратакол 22 заўвагі пра парушэнні з боку супрацоўнікаў Бабруйскага УУС.

*Нагадаем, **4 верасня** А. Жалноў і яго сын сталі сведкамі парушэння правілаў дарожнага руху работнікамі міліцыі – паркоўкі на ходніку. А. Жалноў зафіксаваў гэты факт на відэа і адразу ж звярнуўся з заявай да супрацоўнікаў ДАІ, якія ў той час знаходзіліся побач. У выніку работнікі міліцыі затрымалі А. Жалнова і яго сына і склалі пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні.*

**19 лістапада** ў Рагачове (Гомельская вобл.) з кватэры грамадскага актывіста і рэдактара рэгіянальнага партала *vrogacheve.ru* Дзяніса Дашкевіча супрацоўнікі Следчага камітэта канфіскавалі два камп’ютары і мадэм. Прадстаўнікі праваахоўных органаў паказалі Д. Дашкевічу санкцыю на агляд жылля і паведамілі, што ідзе праверка па крымінальнай справе па факце абразы прадстаўніка ўлады.

Па словах Д. Дашкевіча, на сайце *vrogacheve.ru* быў апублікаваны артыкул аб адным з намеснікаў кіраўніка мясцовай улады, які, як мяркуецца, быў звольнены са жлобінскай мытні за тое, што зліваў бензін са службовых аўтамабіляў. Пасля правядзення журналісцкага расследавання на сайце былі прадстаўленыя два пункты гледжання. Некаторыя людзі сцвярджалі, што ён на самой справе зліваў бензін, за што яго і панізілі. Работнікі ж райвыканкама далі каментары, што гэта няпраўда.

## Пагрозы на адрас журналістаў і СМІ

**25 красавіка** ўночы быў узламаны інфармацыйны сайт "Беларускі партызан". Хакеры размясцілі на галоўнай старонцы паведамленне, у якім прагучала пагроза некаторым незалежным сайтам: "Мы маглі б заваліць і вас, і "Хартыю", і "Вясну", і многіх іншых яшчэ даўно, але мы даем вам магчымасць існаваць пад нашым кантролем. Чаму мы гэта не рабілі? Проста цікава, хто, адкуль і ШТО кажа. А цяпер у нас ёсць спіс гаваруноў, якіх папярэджваем ў апошні раз: гаварыце, пішыце, але не

зарывайцеся, не трэба ліць бруд і абражаць АСОБУ. Асабліва апантаных здраднікаў беларускага народа мы апублікуем на сайтах WikiLeaks, размажам і распранем у прамым і пераносным сэнсе, а таксама выкладзем усе лагіны, паролі, IP-шнікі і паштавікі найбольш адвязаных каментатараў, якія выйшлі за рамкі прыстойнасці".

**13 чэрвеня** стала вядома, што ў Брэсце чыноўнікі перашкаджаюць журналістам асвятляць сітуацыю, што склалася вакол непрыватызаванага жылля. Першы інцыдэнт здарыўся з карэспандэнтам недзяржаўнай газеты "Брестский курьер" Юрыем Шапранам. Пасля паведамлення ў рэдакцыю ад чытачоў, што каля аддзела прыватызацыі і абмену жылля гарадскога ЖРЭУ сабраўся вялікі натоўп, журналіст накіраваўся да месца падзеяў. Прайсці ў будынак ЖРЭУ, каб атрымаць каментар ад супрацоўнікаў аддзела, яму перашкодзіў невядомы мужчына, які пагражаў яму і звярнуўся па дапамогу міліцыі.

Журналіст спрабаваў растлумачыць, што выконвае прафесійныя абавязкі, а ў адказ пачуў: "Калі будзеш выступаць – атрымаеш па галаве". "Незнаёмы вырашыў зачыніць перада мной дзверы, гэта ў яго не атрымалася, і тады ён звярнуўся да міліцыянтаў, якія папрасілі мяне выйсці з памяшкання", – пераказаў інцыдэнт Ю. Шапран.

**5 ліпеня** ў Віцебску галоўнаму рэдактару і фотакарэспандэнту інтэрнэт-газеты "Народныя навіны Віцебска" Сяргею Серабро пагражалі фізічна. Інцыдэнт адбыўся, калі журналіст рыхтаваў рэпартаж пра наступствы залевы ў цэнтры горада – фатаграфаваў рамонт чарговага правалу грунту ў месцы, дзе ўжо некалькі гадоў будуецца падземны пераход. У гэты момант начальнік будоўлі, прадстаўнік мінскага прадпрыемства "Ремсервисстрой" Аляксандр Балохін з тратуарнай пліткай у руцэ накіраваўся да яго, пагражаючы ўдарыць, калі журналіст не спыніць здымаць.

**2 жніўня** віцебскія журналісты Сяргей Серабро і Алена Сцяпанава атрымалі аднолькавыя лісты з пагрозамі і абразамі. У лісце пад загалоўкам "Ведай, куды язык можа давесці" спачатку асмейваецца праца журналістаў. Напрыканцы ж паслання ўтрымліваюцца відавочныя пагрозы, накшталт таго, што праз доўгі язык можна трапіць у "месцы не гэдак аддаленыя". Незалежным журналістам "нагадваюць" пра існаванне закона "Аб асновах дзейнасці па прафілактыцы правапарушэнняў", а таксама палохаюць пакараннем за парушэнне артыкулаў Крымінальнага кодэкса "Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь" і "Заклікі да дзеянняў, накіраваных на шкоду знешняй бяспецы Рэспублікі Беларусь, яе суверэнітэту, тэрытарыяльнай недатыкальнасці, нацыянальнай бяспецы і абароназдольнасці".

**19 лістапада** ў Рагачове (Гомельская вобл.) грамадскаму актывісту і рэдактару рэгіянальнага партала *vrogacheve.ru* Дзянісу Дашкевічу тэлефанавалі невядомыя і маўчалі. Гэта адбылося неўзабаве пасля сыходу супрацоўнікаў Следчага камітэта, якія рабілі ператрус у яго дома. Тады ж па Skype яму даслалі паведамленні: "Ты дагуляўся! Ты хутка сядзеш".

## Папярэджанні, адміністрацыйны ціск

**11 студзеня** Брэсцкая абласная пракуратура вынесла папярэджанне аб недапушчальнасці супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі сябру ГА "БАЖ" Аліне Літвінчук. У пракуратуры палічылі, што матэрыялы на сайце "Радыё Рацыя" за подпісам Алісы Поль на самой справе належаць А. Літвінчук.

**3 красавіка** Аліна Літвінчук атрымала адказ на скаргу, якую яна накіравала Генпракурору ў сувязі з вынесеным ёй у **снежні 2012 года** афіцыйным папярэджаннем аб недапушчальнасці парушэння заканадаўства - за працу ад імя замежнага СМІ без акрэдытацыі. Журналістка прасіла адмяніць "неабгрунтаваную і незаконную" санкцыю. У лісце за подпісам намесніка начальніка аддзела па наглядзе за выкананнем правоў і свабод грамадзян Паўла Елісеева паведамлялася, што скарга накіраваная для разгляду ў пракуратуру Брэсцкай вобласці (якая вынесла папярэджанне, што аспрэчвалася).

**21 лютага** пракуратура г. Мінска вынесла пісьмовае папярэджанне аб недапушчальнасці супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі незалежнаму тэлежурналісту Аляксандру Баразенку. Дакумент уручыла журналісту саветнік юстыцыі Наталля Жукавец. У папярэджанні вялося, што А. Баразенка выконваў функцыі тэлеаператара на карысць польскага тэлеканала "Белсат" і тым самым парушыў заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі.

Днём раней Аляксандр Баразенка па выкліку позвай наведаў пракуратуру г. Мінска. Намеснік начальніка аддзела па наглядзе за выкананнем заканадаўства і законнасцю прававых актаў Наталля Жукавец хацела ўзяць у журналіста тлумачэнні адносна яго работы з камерай каля Маскоўскага райсуда Мінска, дзе ў канцы снежня 2012 года слухалася адміністрацыйная справа прадпрымальніка Аляксандра Макаева. А. Баразенка сказаў, што не памятае абставінаў тых падзей, на што Н. Жукавец прапанавала яму прыйсці да яе паўторна на наступны дзень.

***Даведка:*** *тэлеканал "Белсат" з 2007 г. вяшчае з тэрыторыі Польшчы на Беларусь; аснову яго праграм складаюць матэрыялы, якія робяцца беларускімі журналістамі для беларускіх грамадзян (http://belsat.eu/en/o_nas/ ). З 2008 г. тэлеканал некалькі разоў беспаспяхова спрабаваў атрымаць дазвол на адкрыццё ў Беларусі карпункту. Журналісты, якія супрацоўнічаюць з Белсатам, пастаянна падвяргаюцца пераследу з боку беларускіх уладаў на той падставе, што заканадаўства забараняе дзейнасць у Беларусі журналістаў замежных СМІ (у тым ліку беларускіх грамадзян) без акрэдытацыі. Гэта становішча супярэчыць арт. 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, ратыфікаванага Рэспублікай Беларусь.*

*Журналісты тэлеканала "Белсат" неаднаразова звярталіся ў МЗС Беларусі па акрэдытацыю, але ўвесь час атрымлівалі адмовы – спачатку з фармулёўкай, што пададзеныя дакументы не адпавядаюць заканадаўству, потым – праз тое, што журналісты тэлеканала неаднаразова парушалі заканадаўства аб СМІ, працуючы без акрэдытацыі.*

**11 сакавіка** Міністэрства інфармацыі трэці раз адмовіла ў перарэгістрацыі незалежнаму часопісу "ARCHE. Пачатак". Перарэгістрацыя стала неабходнай па беларускім заканадаўстве ў сувязі з вымушанай зменай юрыдычнай асобы, якая ажыццяўляе функцыі рэдакцыі часопіса, праз ціск на яго супрацоўнікаў. У афіцыйным лісце за подпісам першага намесніка міністра Ліліі Ананіч паведамлялася, што дакументы аб перарэгістрацыі пададзеныя з парушэннем – у заяве не пазначаны кантактны тэлефон заснавальніка. Першы раз з просьбай унесці змены ў пасведчанне аб рэгістрацыі рэдакцыя "ARCHE" звярнулася **ў лістападзе 2012 года.**

**17 красавіка** Міністэрства інфармацыі чацвёрты раз адмовіла часопісу "ARCHE. Пачатак" ў перарэгістрацыі. У рашэнні за подпісам намесніка міністра інфармацыі Уладзіміра Матусевіча адзначалася, што рэдакцыя нібыта не паказала інфармацыю аб перапрызначэнні галоўным рэдактарам Валера Булгакава.

**22 мая** Міністэрства інфармацыі з пятай спробы перарэгістравала недзяржаўны часопіс "ARCHE. Пачатак". Паколькі апошні нумар "ARCHE. Пачатак" выйшаў 28 чэрвеня 2012 года, у Мініфармацыі, згодна з заканадаўствам, з'явілася б падстава

ліквідаваць выданне, калі б да 28 чэрвеня 2013 года рэдакцыя часопіса не змагла выпусціць з друку чарговы нумар.

*Нагадаем, **14 верасня 2012 года** ў Гродне на прэзентацыі кнігі Я. Шумскага "Саветызацыя Заходняй Беларусі" супрацоўнікі міліцыі і падатковай інспекцыі затрымалі галоўнага рэдактара "ARCHE. Пачатак" Валера Булгакава і абвінавацілі яго ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці.*

***4 кастрычніка 2012 года** УДФР заблакавала рахунак часопіса, а яго супрацоўнікаў пачалі выклікаць для тлумачэнняў.*

***18 кастрычніка 2012 года** Валер Булгакаў за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць*

*быў аштрафаваны на 500 тысяч рублёў. Адначасова на дзяржаўным беларускім ТБ з'явіліся прапагандысцкія ролікі, у якіх вядучы заявіў, што «кніжная справа» можа перайсці ў крымінальную з-за экстрэмісцкага зместу канфіскаванай у рэдактара літаратуры .*

***У пачатку лістапада 2012 года** Валер Булгакаў з'ехаў з Беларусі, асцерагаючыся крымінальнага пераследу.*

***22 сакавіка 2013 года** стала вядома, што ў завядзенні крымінальнай справы па выніках праверкі ўстановы "Рэдакцыя часопіса "ARCHE. Пачатак" адмоўлена.*

**18 сакавіка** ў Крычаве заснавальніка незалежнай малатыражнай газеты "Вольны горад" Уладзіміра Кудраўцава і галоўнага рэдактара выдання Сяргея Няроўнага выклікалі ў Крычаўскае РАУС для давання тлумачэнняў. Журналістам паведамілі, што міліцыя разглядае скаргу на паклёп, пададзеную ў пракуратуру.

Падставай для скаргі стала публікацыя "Крепостные?" у лютаўскім нумары "Вольнага горада". У ёй паведамлялася пра тое, што адміністрацыя камунальнага ўнітарнага прадпрыемства «Чэрыкаўская перасоўная механізаваная калона № 280» тры месяцы не выплачвала зарплату рабочым. Бухгалтар прадпрыемства Анжэла Сімак у сваёй скарзе, накіраванай у Чэрыкаўскую раённую пракуратуру, аспрэчыла гэтую інфармацыю, абвінаваціла газету ў паклёпе і запатрабавала абвяржэння.

**22 сакавіка** ў прыватны дом незалежнага журналіста Барыса Вырвіча ў аграгарадку Вялікая Машчаніца Бялыніцкага раёна наведаўся ўчастковы інспектар Бялыніцкага РАУС капітан міліцыі Сяргей Карыткін. Міліцыянт цікавіўся, як выдаецца і распаўсюджваецца незалежная малатыражная газета "Магілёўскі выбар". Па словах С. Карыткіна, гэта было неабходна для аб'ектыўнага разгляду пратаколу аб адміністрацыйным правапарушэнні, складзенага на жыхара вёскі Лебядзянка былога дэпутата Бялыніцкага райсавета Валерыя Вусіка, які пры распаўсюджванні газеты "Магілёўскі выбар" нібыта парушыў арт. 17 закона "Аб сродках масавай інфармацыі".

**5 красавіка** стала вядома, што Барысаўскі райвыканкам выдаліў са свайго сайта інфармацыю аб недзяржаўных СМІ рэгіёну. Пасля гэтага ў раздзеле "СМІ Барысава" сталі фігураваць толькі дзяржаўныя медыя. Раней на сайце Барысаўскага райвыканкама існаваў раздзел «Недзяржаўныя СМІ» .

Перад гэтым недзяржаўная газета "Борисовские новости", атрымаўшы адмову райвыканкама на просьбу дадаць звесткі аб выданні ў раздзел "Недзяржаўныя СМІ", звярнулася са скаргамі ў шэраг дзяржустановаў. З Міністэрства інфармацыі ў рэдакцыю прыйшоў адказ за подпісам намесніка міністра Уладзіміра Матусевіча. Ён растлумачыў, што міністэрства не мае права абавязаць барысаўскія ўлады размясціць на сваім сайце інфармацыю, якая не з'яўляецца абавязковай для размяшчэння.

**15 красавіка** Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь вынесла тэлеканалу «БелМузТВ» папярэджанне ў сувязі з дэманстрацыяй парнаграфіі ў эфіры, чым былі парушаныя патрабаванні Закона аб СМІ, а таксама Інструкцыя аб парадку выпуску, паказу, пракату, продажу і рэкламавання эратычнай прадукцыі, прадукцыі, якая змяшчае элементы эротыкі, насілля і жорсткасці, прадукцыі па сексуальнай адукацыі і палавым выхаванні.

*Нагадаем, інцыдэнт адбыўся **13 красавіка** ў дзённы час, калі відэаінжынер тэлеканала "БелМузТВ" размясціў у эфіры парнаграфічны відэаролік. **14 красавіка** Ўпраўленнем Следчага камітэта па г. Мінску ў дачыненні да яго была распачата крымінальная справа па абвінавачванні ў публічнай дэманстрацыі матэрыялаў парнаграфічнага зместу з выкарыстаннем сетак электрасувязі агульнага карыстання (гл. таксама «Судовыя справы»).*

**26 красавіка** гродзенскі журналіст Уладзімір Хільмановіч наведаў упраўленне КДБ па Гродзенскай вобласці, дзе супрацоўнік Камітэта папярэдзіў, што шэраг артыкулаў журналіста можа падпадаць пад крымінальны артыкул аб дыскрэдытацыі Рэспублікі Беларусь (ч. 1 арт. 369 КК РБ). Гаворка ішла аб публікацыях журналіста ў газеце "Ніва", якая выдаецца ў Беластоку (Польшча). Напярэдадні, **25 красавіка,** на мабільны тэлефон журналіста патэлефанаваў супрацоўнік КДБ, які прадставіўся прозвішчам Доўгіх і прапанаваў з'явіцца для размовы "ў рамках кампетэнцыі дзейнасці ўпраўлення КДБ".

**2 мая** раніцай у вёсцы Вялікая Машчаніца (Магілёўская вобласць) журналіста Барыса Вырвіча наведаў участковы інспектар міліцыі Андрэй Емяльянаў. Больш за гадзіну ён дапытваўся ў Б. Вырвіча, якім чынам і пры чыёй дапамозе на спадарожнікавым тэлеканале "Белсат" з'явіўся сюжэт пра сельгаспрадпрыемства "Лебядзянка" Бялыніцкага раёна. Міліцыянта цікавіла, хто з'яўляецца аўтарам відэаматэрыялу. Барыс Вырвіч растлумачыў, што ні пры якіх відэаздымках там не прысутнічаў і нічога пра іх не ведае. Паралельна міліцыянт цікавіўся тым, хто выдае малатыражную газету "Магілёўскі выбар" і ці мае датычыненне да гэтай газеты Барыс Вырвіч.

**8 мая** карэспандэнта “Радыё Свабода” Алега Груздзіловіча па тэлефоне выклікалі ў пракуратуру г. Мінска, дзе яму ўручылі афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння арт. 34 закона «Аб сродках масавай інфармацыі» («Распаўсюджванне неаб'ектыўнай і наўмысна скажонай інфармацыі») за подпісам першага намесніка пракурора г. Мінска Ўладзіміра Раманоўскага. Падставай для санкцыі сталі матэрыял журналіста аб ахове мінскага метро і яго кніга "Хто падарваў мінскае метро". Напярэдадні гадавіны тэракту ў мінскім метро Алег Груздзіловіч прайшоўся па падземцы з вялікай сумкай. Пазней у сваёй публікацыі журналіст распавёў аб выніках расследавання – на якіх станцыях метро супрацоўнікі міліцыі даглядалі яго сумку, на якіх – не звярнулі на яе ўвагі.

**22 мая** незалежная журналістка Аліна Скрабунова па позве наведала Кастрычніцкае РАУС г. Магілёва. Супрацоўнік міліцыі паведаміў ёй, што з пракуратуры Бялыніцкага раёна паступіла даручэнне правесці апытанне з нагоды калектыўнай скаргі кіраўніцтва СВК "Лебядзянка" на журналістаў Аліну Скрабунову, Яўгена Глушкова, Барыса Вырвіча і грамадскага актывіста Валерыя Вусіка. Падставай для гэтага стала нібыта лжывая інфармацыя аб унутранай сітуацыі ў сельскагаспадарчым кааператыве, распаўсюджаная журналістамі. У міліцыі ў А. Скрабуновай цікавіліся, ці з'яўляецца яна журналісткай, ці мае акрэдытацыю, ці прад'яўляла пасведчанне "Белсат", а таксама з якой нагоды праводзіліся здымкі ў СВК "Лебядзянка" **22 лютага**. Журналістка адмовілася адказваць на пытанні, спаслаўшыся на арт. 27 Канстытуцыі.

**24 мая** старшыню Гомельскага філіяла ГА "БАЖ" Анатоля Гатоўчыца выклікалі ў абласную пракуратуру для дачы тлумачэнняў аб відэасюжэце "Людзі на вадзе", паказаным 24 красавіка ў праграме навін тэлеканала "Белсат". У матэрыяле распавядалася аб паводцы ў вёсцы Якубоўцы, якая закранула дзесяткі сем'яў. У сюжэце некалькі хвілін аб сітуацыі распавядаў выратавальнік. Як аказалася, ён накіраваў у пракуратуру скаргу аб парушэнні сваіх правоў, паколькі не хацеў даваць якія-небудзь інтэрв'ю замежнаму тэлеканалу "Белсат". Анатоль Гатоўчыц патлумачыў пракурору, што рыхтаваў матэрыял для інфармагенцтва БелаПАН, прадстаўляўся яго карэспандэнтам і ніякіх матэрыялаў "Белсату" не дасылаў.

**30 мая** незалежная тэлежурналістка Вольга Чайчыц атрымала пісьмовае папярэджанне пракуратуры Смалявіцкага раёна на падставе п. 4 арт. 35 закона «Аб сродках масавай інфармацыі» («Ажыццяўленне прафесійнай дзейнасці журналістаў замежных СМІ без акрэдытацыі»). У пракуратуры, куды Чайчыц выклікалі позвай "для дачы тлумачэнняў", цікавіліся яе супрацоўніцтвам з тэлеканалам "Белсат". Журналістка адмовілася адказваць на пытанні, і ёй ўручылі папярэджанне, падпісанае пракурорам Смалявіцкага раёна Віктарам Русаковічам.

**7 чэрвеня** пракурор Смалявіцкага раёна Віктар Русаковіч вынес пісьмовае папярэджанне незалежнаму тэлежурналісту Алесю Сілічу за ажыццяўленне прафесійнай дзейнасці журналіста замежнага СМІ без акрэдытацыі (супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат").

Выклік у пракуратуру журналістаў Вольгі Чайчыц і Алеся Сіліча па ўсёй верагоднасці быў звязаны з іх прысутнасцю на грамадскім абмеркаванні праекта Кітайска-беларускага індустрыяльнага парку пад Смалявічамі, якое праходзіла ў красавіку. Тады супрацоўнік міліцыі перапісаў іх пашпартныя дадзеныя і паабяцаў "разабрацца".

**22 чэрвеня** ў рагачоўскага актывіста Дзяніса Дашкевіча міліцыя ўзяла тлумачэнні наконт публікацыі на незалежным сайце *vrogacheve.ru.* Нагодай стала інфармацыя пра пераслед памерлага ў пачатку 2013 года рагачоўскага паэта Юрыя Арэстава. Супрацоўніка міліцыі цікавіла, адкуль Дз. Дашкевіч узяў дакументы для публікацыі, хто яму іх перадаў і г.д.

**20 жніўня** стала вядома, што пракуратура Салігорскага раёна, разгледзеўшы скаргу мясцовага актывіста Віктара Малочкі, вынесла афіцыйнае папярэджанне Салігорскаму тэлевізійнаму каналу аб недапушчальнасці парушэнняў заканадаўства аб зваротах грамадзян.

В. Малочка паскардзіўся на дзяржаўны тэлеканал з-за адмовы таго размясціць у эфіры ў сакавіку 2013 года віншаванне з 95-годдзем Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), а таксама з-за адказаў на свае беларускамоўныя звароты на рускай мове. Апошняя акалічнасць і стала падставай для папярэджання .

Што тычыцца адмовы кіраўніцтва Салігорскага тэлеканала выпусціць у эфір віншаванне з угодкамі БНР, то гэтую частку звароту пракуратура пакінула без разгляду, зазначыўшы, што гэтыя дзеянні дырэкцыі тэлеканала павінны быць абскарджаны ў вышэйстаячай арганізацыі, гэта значыць у Салігорскім райвыканкаме.

**3 верасня** Віцебская абласная пракуратура вынесла афіцыйнае папярэджанне за супрацоўніцтва без акрэдытацыі з выданнем, не зарэгістраваным на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, незалежнаму журналісту Ўладзіміру Жыгулаву. Журналіста, які супрацоўнічае з газетай "Витебский курьер", выклікалі ў пракуратуру позвай "для тлумачэння па пытанні парушэння закона аб СМІ". Уладзімір Жыгулаў адмовіўся даваць пракурору Паўлу Зайцаву тлумачэнні, пасля чаго пракурор уручыў яму падрыхтаванае загадзя папярэджанне.

*Нагадаем, што пасля безвыніковых спробаў зарэгістравацца ў Беларусі "Витебский курьер", каб захаваць статус легальнай газеты, вымушаны быў атрымаць рэгістрацыю ў Расіі (г. Смаленск).*

**5 верасня** следчы Ўпраўлення Следчага камітэта па г. Мінску Андрэй Еўлаш апытаў журналістку інфармацыйнага партала *TUT.by* Кацярыну Сінюк адносна публікацыі інфармацыі пра былога кіраўніка міжнароднага дабрачыннага грамадскага аб'яднання "Ў дапамогу дзецям-сіротам" Вячаслава Давыдовіча, затрыманага 29 жніўня па падазрэнні ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці.

Звесткі па справе журналістка атрымала ў выніку афіцыйнага звароту ў міліцыю, але пасля публікацыі ёй пачалі паступаць патрабаванні ад праваахоўнікаў не паведамляць нічога пра лёс В. Давыдовіча. Такое ж патрабаванне падчас допыту выставіў і следчы А. Еўлаш. Ён паведаміў журналістцы пра рашэнне прыцягнуць яе да гэтай крымінальнай справы ў якасці сведкі. Следчы папярэдзіў К. Сінюк, што ў выпадку выдавання матэрыялаў крымінальнай справы ёй можа пагражаць штраф альбо арышт тэрмінам да шасці месяцаў.

Сама журналістка палічыла, што такія дзеянні - спроба прымусіць яе не пісаць пра арышт Давыдовіча. "Я ў вочы не бачыла ніякіх матэрыялаў гэтай крымінальнай справы, таму, калі ў мяне з'явіцца новая інфармацыя, і я палічу яе грамадска важнай, я буду яе публікаваць", – заявіла Кацярына Сінюк.

**16 верасня** Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь вынесла папярэджанне незалежнай газеце "Народная воля" ў адпаведнасці з падпунктам 1.2 пункта артыкула 49 Закона аб СМІ, г.зн. за распаўсюд недакладнай інфармацыі, якая можа нанесці шкоду дзяржаўным або грамадскім інтарэсам.

Падставай для вынясення папярэджання стаў артыкул "Беларускія бібліятэкі захраслі ў мінулым стагоддзі", прысвечаны праблеме рэфармавання беларускіх бібліятэк з улікам патрабаванняў часу і замежнага вопыту.

На думку Міністэрства, у артыкуле была распаўсюджаная недакладная інфармацыя, якая "наносіць шкоду грамадскім інтарэсам, і выяўляецца ў тым ліку ў масавай дэзінфармацыі насельніцтва рэспублікі, а таксама ў парушэнні канстытуцыйнага права грамадзян Рэспублікі Беларусь на атрыманне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі".

**3 снежня** Гродзенская абласная пракуратура вынесла афіцыйнае папярэджанне незалежнаму журналісту Аляксандру Дзянісаву аб недапушчальнасці работы на замежны СМІ без акрэдытацыі (п. 4 арт. 35 закона "Аб сродках масавай інфармацыі"). У пракуратуры, куды журналіста выклікалі позвай, у якасці доказу віны паказалі фатаграфію, дзе ён стаіць з відэакамерай падчас урачыстасці ў гонар паўстанцаў 1863 года ў пасёлку Свіслач, а таксама стоп-кадр з сюжэту на гэтую тэму ў навінах незалежнага спадарожнікавага тэлеканала "Белсат". Пісьмовае папярэджанне журналісту ўручыў намеснік начальніка аддзела пракуратуры Гродзенскай вобласці Валерый Павядайка.

**4 снежня** Гродзенская абласная пракуратура вынесла афіцыйнае папярэджанне журналісту Аляксандру Кіркевічу. Намеснік начальніка аддзела пракуратуры Гродзенскай вобласці Валерый Павядайка паведаміў яму, што той парушыў ч. 2 арт. 22.9 КаАП ("Незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ"). Аляксандр Кіркевіч адмовіўся даваць пракурору тлумачэнні, а таксама падпісваць якія-небудзь паперы.

**17 снежня** Гродзенская абласная пракуратура вынесла папярэджанне незалежнаму журналісту Андрэю Мялешку за работу на замежныя СМІ без акрэдытацыі. Прычынай выкліку журналіста ў пракуратуру сталі відэа і фота з пасёлка

Свіслач, зробленыя 27 кастрычніка 2013 года. Намеснік начальніка аддзела пракуратуры Гродзенскай вобласці Валерый Павядайка паказаў журналісту здымкі, дзе той стаіць з дыктафонам падчас акцыі памяці паўстанцаў 1863 года, а таксама раздрукоўку з сайта "Радыё Рацыя", дзе А. Мялешка, на думку пракурора, размясціў рэпартаж з той падзеі.

На падставе гэтага В. Павядайка вынес А. Мялешку папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння ч. 2 арт. 22.9 КаАП ("Незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ"). Пракурор расцаніў работу журналіста на замежнае радыё без акрэдытацыі як "незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ".

**19 снежня** незалежная журналістка Алена Барэль паведаміла, што яе не ўзялі на работу з-за званка з КДБ. Па словах А. Барэль, яе запрасілі на пасаду рэдактара аддзела навін будучага інтэрактыўнага партала "Ўся Беларусь". На трэці дзень выпрабавальнага тэрміну ёй паведамілі, што, як стала вядома пасля званка з КДБ, яна знаходзіцца ў «чорным спісе» журналістаў і не можа далей працаваць у праекце. У сваю чаргу, рэдактар парталу "Уся Беларусь" Кацярына Несцер заявіла, што КДБ ніяк не паўплываў на адмову журналістцы і што яе вырашылі не браць на працу, «паколькі яна мае выяўленыя палітычныя перакананні, якія могуць перашкаджаць аб'ектыўнай журналісцкай працы».

## Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі (адмовы ў прадстаўленні інфармацыі, абмежавальнае выкарыстанне інстытута акрэдытацыі)

11 студзеня ў судзе Маскоўскага раёна г. Брэста праходзіла папярэдняе слуханне справы аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі па зыску члена ГА «БАЖ» Міланы Харытонавай ў дачыненні да карэспандэнта дзяржаўнай газеты "Брэсцкі веснік" Уладзіміра Міневіча. М. Харытонава хадайнічала, каб за слуханнямі маглі назіраць усе журналісты, якія цікавяцца гэтай справай. Аднак суддзя Таццяна Ісаева, спаслаўшыся на тое, што ў яе службовым кабінеце колькасць месцаў абмежавана, дазволіла прысутнічаць толькі мужу М. Харытонавай – журналісту Аляксандру Ляўчуку. Пры гэтым іншыя прадстаўнікі СМІ заўважылі, што большая па памерах зала паседжэнняў у гэты час была вольная.

14 студзеня журналістам баранавіцкай незалежнай газеты “Intex-press” не далі атрымаць інфармацыю аб перамозе мясцовых дзіцячых творчых калектываў на міжнародным конкурсе. Дырэктар гарадскога Дома культуры Ўладзімір Станевіч забараніў карэспандэнтам прысутнічаць на прэс-канферэнцыі і накіраваў іх па дазвол у ідэалагічны аддзел гарвыканкама або ў аддзел культуры. Начальнік аддзела ідэалагічнай работы выканкама Таццяна Жытко, у сваю чаргу, сказала, што ніякага дачынення да культуры не мае. А начальнік аддзела культуры Генадзь Чарняўскі заявіў па тэлефоне, што нічога пра прэс-канферэнцыю не ведае і ўсю інфармацыю журналісты змогуць атрымаць на сайце гарвыканкама. У выніку прэс-канферэнцыю адмянілі.

23 студзеня стала вядома, што карэспандэнта "Еўрапейскага радыё для Беларусі" Паўла Свярдлова пазбавілі акрэдытацыі ў Беларусі. Падставай для адпаведнага рашэння МЗС стаў адміністрацыйны арышт журналіста ў мінулым годзе. Камісія МЗС спаслалася на п. 15.2 Палажэння аб парадку акрэдытацыі журналістаў замежных СМІ, згодна з якім Міністэрства мае права пазбавіць акрэдытацыі карэспандэнта ў выпадку парушэння ім "заканадаўства Рэспублікі Беларусь".

Нагадаем, раніцай 22 чэрвеня 2012 г. спецназаўцы затрымалі П. Свярдлова ля пад'езда, як толькі ён выйшаў з дому. У той жа дзень суд Маскоўскага раёна г. Мінска асудзіў яго на 15 сутак арышту за нецэнзурную лаянку ў грамадскім месцы, хоць сам карэспандэнт сваю віну катэгарычна адмаўляў. Затрыманне і разгляд справы адбыліся з такой хуткасцю, што адвакат нават не паспела даехаць да суда. Мінскі гарадскі суд пакінуў рашэнне без зменаў. Вярхоўны суд таксама не задаволіў скаргу журналіста на папярэднія судовыя рашэнні.

30 студзеня фотакарэспандэнт недзяржаўнай газеты "Брестский курьер" Мілана Харытонава накіравала скаргу ў пракуратуру з просьбай прыцягнуць да адказнасці супрацоўніка міліцыі, які перашкаджаў ёй выконваць прафесійныя абавязкі. Інцыдэнт адбыўся 25 лістапада 2012 года, калі ў Брэсце праходзіла фінальная гульня чэмпіянату Беларусі па футболе. Журналістка фатаграфавала, як адзначаюць канчатак гульні заўзятары. Калі ў аб'ектыў стала трапляць затрыманне міліцыяй найбольш актыўных футбольных заўзятараў, адзін з міліцыянтаў запатрабаваў спыніць фотаздымку і штурхнуў журналістку з ходніка на праезную частку; потым перашкаджаў ёй рабіць здымкі. У скарзе М. Харытонава прасіла выявіць асобу гэтага праваахоўніка і прыцягнуць яго да адказнасці.

21 лютага Мілана Харытонава атрымала адказ на сваю скаргу ў пракуратуру. Афіцыйны адказ (датаваны 14 лютага) прыйшоў з міліцыі за подпісам начальніка Ленінскага РАУС г. Брэста Генадзя Вайтовіча. З ліста вынікала, што ніякіх парушэнняў у дзеяннях міліцыянтаў не знойдзена.

25 лютага ў Мінску супрацоўнік міліцыі без тлумачэння прычын выдаліў аператара інфармагенцтва БелаПАН з тэрыторыі каля дома па вуліцы Пляханава, дзе адбыліся выбух і пажар. У зону ачаплення журналіст трапіў, паказаўшы лейтэнанту міліцыі службовае пасведчанне. Ён здымаў на камеру месца трагедыі і чакаў абяцанага каментара ад прадстаўнікоў Чырвонага Крыжа. Раптам афіцэр, які пусціў яго ў зону ачаплення, запатрабаваў сысці і літаральна выштурхаў журналіста за межы зоны.

27 лютага супрацоўніца прэс-службы Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі заявіла карэспандэнту "Еўрапейскага радыё для Беларусі" Дзмітрыю Лукашуку, каб патрэбную для журналісцкага матэрыялу інфармацыю аб дзейнасці арганізацыі ён шукаў на сайце ФПБ. Напярэдадні журналіст накіраваў у прэс-службу ФПБ пералік пытанняў да старшыні Федэрацыі Леаніда Козіка і прасіў чыноўніка адказаць на іх пры сустрэчы або па тэлефоне. Адказаў на пастаўленыя пытанні на сайце ФПБ не з’явілася.

28 лютага сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў "Лебядзянка" па запрашэнні былога дэпутата Бялыніцкага райсавета Валерыя Вусіка наведалі журналісты незалежнага тэлеканала "Белсат". Яны хацелі сустрэцца з работнікамі гэтай гаспадаркі, каб праверыць інфармацыю аб парушэннях, апісаных у звароце да мясцовых уладаў панам Вусікам. У час размовы тэлежурналістаў з работнікамі адной з жывёлагадоўчых ферм гаспадаркі аб іх зарплаце і ўмовах працы, на ферму прыбыў намеснік старшыні кааператыва. Ён абвінаваціў журналістаў у "прамысловым шпіянажы" і запатрабаваў тэрмінова пакінуць аб'ект, пагражаючы выклікаць міліцыю.

Увечары 28 лютага дахаты да Валерыя Вусіка прыйшоў участковы інспектар Сяргей Карыцін. Міліцыянта цікавіла, "на якой падставе той запрасіў тэлебачанне". Валерый Вусік адмовіўся адказваць на пытанні.

2 сакавіка ў Менску падчас афіцыёзнага спартыўнага свята "Мінская лыжня–2013" людзі ў цывільным забаранялі журналістам здымаць удзельнікаў забегу – у іх ліку былі дзяржчыноўнікі і прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.

19 сакавіка карэспандэнта "Радыё Свабода" Міхаіла Карневіча не пусцілі на тэрыторыю будаўніцтва Астравецкай атамнай электрастанцыі, нягледзячы на тое, што

журналіст загадзя ўзгадніў сваю прысутнасць з Дырэкцыяй будаўніцтва, запоўніў неабходныя для гэтага анкеты і бланкі і атрымаў дазвол. Але па прыездзе журналіста ў г.п. Астравец супрацоўнік інфармацыйнага цэнтра будаўніцтва АЭС раптам заявіў М. Карневічу, што наведаць будаўнічую пляцоўку ён не можа – нібыта па прычыне адсутнасці яшчэ аднаго дазвольнага дакумента з Міністэрства энергетыкі. Журналіст планаваў падрыхтаваць матэрыял аб тэмпах будаўніцтва АЭС, пагутарыць з рабочымі і кіраўніцтвам будоўлі.

25 сакавіка ў Кастрычніцкім раённым судзе г. Віцебска супрацоўнік міліцыі забараніў сябру БАЖ Леаніду Гаравому рабіць фотаздымкі перад пачаткам працэсу па адміністрацыйнай справе віцебскіх актывістаў Леаніда Аўтухова і Канстанціна Смолікава. Па словах пана Гаравога, супрацоўнік Кастрычніцкага РАУС Віцебска Міхаіл Мядзведзеў абурыўся, што яго фатаграфуюць, а потым заявіў, што ў будынку суда ўвогуле здымаць забаронена.

26 сакавіка Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь у чарговы раз адмовіла ў акрэдытацыі карэспандэнцкага пункта спадарожнікаваму тэлеканалу "Белсат" (АТ "Польскае тэлебачанне"). У сваім рашэнні МЗС спаслалася на тое, што беларускія журналісты неаднаразова парушалі заканадаўства, калі супрацоўнічалі з тэлеканалам і атрымлівалі за гэта пракурорскія папярэджаньні. Рашэнне аб адмове ў акрэдытацыі падпісана намеснікам міністра Аленай Купчынай.

7 мая падчас разгляду адміністрацыйнай справы журналіста Зміцера Галко ў Маскоўскім райсудзе г. Мінска суддзя Яўген Хаткевіч забараніў прысутным у судзе журналістам карыстацца не толькі відэа- і фота-, але і аўдыётэхнікай, што супярэчыць заканадаўству. Аксану Рудовіч ("Наша Ніва"), Алега Груздзіловіча ("Радыё Свабода") і Барыса Гарэцкага (Беларуская асацыяцыя журналістаў) суддзя хацеў выдаліць з залы на падставе таго, што яны трымалі ў руках мабільныя тэлефоны, пры дапамозе якіх нібыта вялі аўдыёзапіс. Журналістам дазволілі застацца ў зале толькі пасля таго, як яны здалі тэлефоны ахоўніку.

20 мая Міністэрства замежных спраў Беларусі ў пяты раз адмовіла ў акрэдытацыі карэспандэнту "Беларускага Радыё Рацыя" з Гродна Віктару Парфёненку. Адпаведную пастанову камісіі МЗС па разглядзе пытанняў акрэдытацыі журналістаў замежных СМІ падпісала намеснік загадчыка ўпраўлення інфармацыі МЗС Марыя Ваньшына.

Ужо пяць гадоў В. Парфёненка спрабуе атрымаць дазвол працаваць легальна. 21 лютага 2012 года журналіст атрымаў пракурорскае папярэджанне за супрацоўніцтва з замежным СМІ без акрэдытацыі.

22 мая рэдакцыя недзяржаўнай баранавіцкай газеты "Intex-press" паведаміла, што атрымліваць інфармацыю ад мясцовых чыноўнікаў стала яшчэ складаней. У прыватнасці, карэспандэнтке выдання Людміле Пракопавай не ўдалося атрымаць звесткі аб тым, каму прадалі будынак былога Дома піянераў, які ўваходзіць у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі. Намеснік дырэктара – загадчык аддзела арганізацыі і правядзення аўкцыёнаў і конкурсаў фонду "Брэстаблмаёмасць" Уладзімір Мацукевіч – адмовіўся назваць карэспандэнту імя пераможцы аўкцыёну, паколькі, па яго словах, "у законе не прапісана, што неабходна публікаваць інфармацыю аб удзельніках і пераможцах". Начальнік упраўлення эканомікі Баранавіцкага гарвыканкама Раіса Ўласовіч таксама нічога не паведаміла аб праведзеным аўкцыёне і пакупніку.

23 мая стала вядома, што здымачнай групе тэлеканала "Белсат" адмовілі ў акрэдытацыі на канцэрт рок-гурта “N.R.M.”. Прадзюсар мерапрыемства Павел Кашырын патлумачыў адмову рашэннем уладальніка прыватнага клуба "Гудвін", дзе

праходзіў канцэрт, забараніць любыя відэаздымкі. Паводле яго словаў, гэтая забарона датычылася не толькі журналістаў тэлеканала "Белсат".

29 мая карэспандэнту недзяржаўнай газеты "Народная воля" Марыі Малевіч адмовілі ў акрэдытацыі на прэс-канферэнцыю, прысвечаную правядзенню "Першага сырнага фестывалю пад Мінскам". Спачатку яе запрасілі на мерапрыемства, а пазней перателефанавалі і папрасілі не прыходзіць, спасылаючыся на прысутнасць чыноўнікаў і магчымыя вострыя пытанні з яе боку. На просьбу прэс-службы БАЖ пракаментаваць сітуацыю адказны за акрэдытацыю на фэстываль Андрэй Кірыенка назваў дзеянні журналісткі "неадэкватнымі" і ад далейшых каментароў адмовіўся.

7 чэрвеня ў Брэсце незалежным журналістам Алесю Леўчуку і Мілане Харытонавай перашкаджалі выконваць прафесійныя абавязкі на гарадскім рынку "Аўтазапчасткі". Яны рыхтавалі рэпартаж пра тое, як ініцыятары кампаніі "Народны рэферэндум" гутарылі на рынку з прадпрымальнікамі і наведвальнікамі. У гэты час падышоў загадчык рынка Алег Дзенісюк і заявіў, што нельга здымаць без дазволу, паколькі тэрыторыя рынку – гэта прыватная ўласнасць. Затым ён выклікаў міліцыю. Участковы інспектар Аляксандр Талатыннік перапісаў асабістыя дадзеныя Алеся Леўчука і Міланы Харытонавай і папярэдзіў, што надалей іх могуць выклікаць ў аддзяленне міліцыі для апытання.

11 чэрвеня журналісту "Еўрапейскага радыё для Беларусі" Дзмітрыю Лукашуку адмовілі ў акрэдытацыі на прэс-канферэнцыю ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Пра гэта званком у рэдакцыю мінскага карпункту радыёстанцыі паведаміў загадчык упраўлення інфармацыйна-аналітычнай работы Палаты прадстаўнікоў Мікалай Ліс. Ён растлумачыў, што журналіста не акрэдытавалі па прычыне адсутнасці гадавой акрэдытацыі пры парламенце.

Атрымаць гадавую акрэдытацыю пры Палаце прадстаўнікоў "Еўрапейскае радыё для Беларусі" безвынікова спрабавала на працягу двух папярэдніх гадоў.

12 чэрвеня ў Віцебску супрацоўнікі міліцыі і асобы ў цывільным перашкаджалі працы журналістаў і забаранялі фатаграфаваць каля будынка абласнога суда, дзе ў той дзень пачаўся працэс па справе абвінавачанага ў здрадзе дзяржаве Андрэя Гайдукова.

Міліцыянты заявілі, што ў выпадку непадпарадкавання журналістаў затрымаюць і адвязуць у аддзяленне міліцыі. У прыватнасці, пагрозы аб затрыманні гучалі на адрас карэспандэнтаў газеты "Наша Ніва" Аксаны Рудовіч і Таццяны Гаўрыльчык.

13 чэрвеня стала вядома, што ў Брэсце чыноўнікі перашкаджаюць журналістам асвятляць сітуацыю вакол непрыватызаванага жылля.

Першы інцыдэнт адбыўся з карэспандэнтам недзяржаўнай газеты "Брестский курьер" Юрыем Шапранам. Пасля паведамлення ў рэдакцыю ад чытачоў, што каля аддзела прыватызацыі і абмену жылля гарадскога ЖРЭУ сабраўся вялікі натоўп, журналіст накіраваўся да месца падзей. Прайсці ў будынак ЖРЭУ, каб атрымаць каментар ад супрацоўнікаў аддзела, яму перашкодзіў невядомы мужчына, які пагражаў яму і звярнуўся па дапамогу міліцыянтаў, якія папрасілі журналістаў выйсці з памяшкання.

Тады ж рэпартаж пра сітуацыю вакол гэтай установы спрабавалі зрабіць незалежныя журналісты Мілана Харытонава і Алесь Ляўчук. Спробы зняць на відэа атмасферу ў натоўпе выклікалі нервовую рэакцыю ў супрацоўнікаў аддзела ЖРЭУ. Да журналістаў падышоў невядомы мужчына, вельмі хутка прад'явіў пасведчанне (яны не паспелі разглядзець яго), запатрабаваў спыніць здымачны працэс і выклікаў міліцыянтаў. Супрацоўнікі міліцыі выслухалі абодва бакі і ніякіх перашкодаў журналістам не чынілі.

18 чэрвеня начальнік аддзела па справах моладзі Баранавіцкага гарвыканкама Эма Захарава адмовіла недзяржаўнай рэгіянальнай газеце "Intex-press" у інтэрв'ю. Карэспандэнтка выдання Наталля Саламянка звярнулася да чыноўніцы з просьбай распавесці аб дзейнасці адзінага на тэрыторыі рэгіёну працоўнага атрада, арганізацыяй якога гэты аддзел непасрэдна займаўся. Калі журналістка пацікавілася ў Э. Захаравай прычынай адмовы, тая заявіла: "Я падумала і вырашыла, што мне не трэба сустракацца з вамі. Увогуле не хачу і не буду нічога распавядаць вашай газеце".

19 ліпеня перад пачаткам працэсу аб вызваленні журналісткі Ірыны Халіп ад крымінальнага пакарання пасля заканчэння адтэрміноўкі прысуду ў судзе Партызанскага раёна г. Мінска сакратар некалькі разоў спрабавала выдаліць з залы суда фота- і відэаапаратараў. Журналісты адмовіліся выходзіць, спасылаючыся на тое, што рашэнне аб забароне здымак павінна аб'явіць суддзя. У пачатку слуханняў суддзя Рыта Шаграй, разгледзеўшы хадайніцтва аб допуску ў залу суда сваякоў і журналістаў, задаволіла яго часткова: дазволіла прысутнічаць толькі тым журналістам, у каго не было фота-, аўдыё- і відэатэхнікі.

28 ліпеня незалежнаму журналісту Дзмітрыю Лупачу забаранілі прысутнічаць на сходзе жыхароў вёскі Дзеркаўшчына (Глыбоцкі раён), дзе абмяркоўвалася забарона сялянам трымаць свіней у пяцікіламетровай зоне ад дзяржаўнага свінакомплексу "Маліноўшчына" ў сувязі з небяспекай распаўсюджання афрыканскай чумы свіней. З гэтай мэтай старшыня Глыбоцкага райвыканкама Алег Морхат звярнуўся да намесніка начальніка раённай міліцыі Віктара Адамовіча. Ён таксама запатрабаваў звольніць участковага, які, на яго думку, павінен быў не прапусціць журналіста на сход.

19 жніўня карэспандэнта "Радыё Свабода" Ігара Карнея не пусцілі на прэс-канферэнцыю кіраўніцтва прадпрыемства "Беларуськалій". Нагодай для гутаркі з журналістамі было становішча на рынку мінеральных угнаенняў у выніку разрыву адносін паміж расійскім канцэрнам "Уралкалій" і "Беларускай калійнай кампаніяй".

16 жніўня ў адказ на спробу І. Карнея акрэдытавацца на прэс-канферэнцыю намеснік дырэктара па кадрах і ідэалагічнай рабоце "Беларуськалія" Анатоль Махлай адказаў, што павінен параіцца з генеральным дырэктарам Валерыем Кірыенкам і папрасіўператэлефанаваць раніцай 19-га. У прызначаны дзень чыноўнік паведаміў журналісту, што яго прысутнасць непажадана, бо "ваша радыё не выклікае даверу".

21 жніўня кіраўніцтва Віцебскага абласнога псіханеўралагічнага дыспансэра адмовілася даць інтэрв'ю газеце "Витебский курьер". Журналіст Уладзімір Жыгулаў хацеў пагаварыць пра лёс Ігара Пастнова – лекара-псіхіятра, які працаваў у гэтай лякарні, а з 16 жніўня знаходзіўся ў ёй у якасці пацыента. Перад гэтым І. Пастноў казаў, што яму неаднаразова пагражалі прымусовым лячэннем за крытыку медыцынскіх устаноў Віцебска. Галоўны ўрач дыспансера Алена Мартынава спачатку пагадзілася пагутарыць, але некалькі разоў пераносіла сустрэчу. Нарэшце, 21 жніўня журналісту патэлефанавала сакратар лякарні і запрасіла на 14 гадзін, але зноў Алена Мартынава аказалася занятай. На пытанні абяцаў адказаць намеснік галоўнага ўрача Ігар Свіркуноў. Аднак, даведаўшыся якое выданне прадстаўляе У. Жыгулаў, ён гутарыць адмовіўся. Пан Свіркуноў таксама забараніў журналісту фатаграфаваць бальнічны корпус, заявіўшы, што "тут закрытая ўстанова".

23 жніўня стала вядома, што Дэпартамент выканання пакаранняў (ДВП) МУС адмовіў незалежнаму журналісту з Віцебска Канстанціну Мардвінцаву ў магчымасці наведаць адну з папраўчых калоній Віцебшчыны. Журналіст збіраўся падрыхтаваць матэрыял пра побыт і ўмовы ўтрымання зняволеных і для гэтага ў законным парадку накіраваў заяву. У адказе першы намеснік начальніка ДВП МУС Сяргей Працэнка паведаміў, што лічыць візіт журналіста "немэтазгодным".

3 верасня Баранавіцкі гарадскі аддзел унутраных спраў адмовіўся даць мясцовай недзяржаўнай газеце "Intex-press" статыстыку па правапарушэннях, здзейсненых у стане алкагольнага ап'янення, фактах самагонаварэння, нелегальным продажы спіртнога і інш. Карэспандэнтка Таццяна Некрашэвіч, рыхтуючы артыкул аб абмежаванні гандлю алкаголем у начны час, ініцыяваным міліцыяй, звярнулася па звесткі ў групу інфармацыі і грамадскіх сувязяў Баранавіцкага ГАУС. Інспектар Вольга Сакута абяцала падрыхтаваць інфармацыю, аднак на працягу тыдня давала журналістцы адзін адказ: "Завіс камп’ютар. Не можам сабраць дадзеныя". 2 верасня В. Сакута заявіла, што газеце "Intex-press" кіраўніцтва ГАУС забараніла даваць інфармацыю. У той жа дзень журналістка дамовілася аб інтэрв'ю на гэтую ж тэму з начальнікам аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Баранавіцкага ГАУС Эдуардам Суднікам. Аднак у прызначаны час 3 верасня Э. Суднік адмовіўся размаўляць, матывуючы гэта тым, што яму "забаронена даваць інфармацыю дадзенаму выданню". Па словах міліцыянта, такое распараджэнне прыйшло з Баранавіцкага гарвыканкама.

9 верасня начальнік Баранавіцкага ГАУС Вячаслаў Герасімовіч ў адказ на пісьмовы запыт "Intex-press" аб статыстыцы па правапарушэннях, здзейсненых у стане алкагольнага ап'янення, фактах самагонаварэння, нелегальным продажы спіртнога і да т.п. паведаміў, што не можа даць запытаныя звесткі, паколькі яны адносяцца да інфармацыі "для службовага карыстання". У той жа час, калі "Intex-press" атрымала адмову ад ГАУС, статыстыка па самагонаварэнні з'явілася ў дзяржаўнай раённай газеце "Наш край".

5 верасня ў Мінску журналістаў тэлеканала "Белсат" выгналі з прэм'еры балета "Вітаўт" у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета, нягледзячы на тое, што яны загадзя акрэдытаваліся. Калі Аляксандр Баразенка і Алег Ражкоў пачалі здымаць гасцей мерапрыемства, сярод якіх былі міністр культуры Барыс Святлоў, старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына і іншыя высокія дзяржчыноўнікі, з'явіліся тэатральныя адміністратары і сказалі ім пра неабходнасць пакінуць мерапрыемства. Журналістам заявілі, што са спісаў акрэдытаваных іх выкраслілі ў апошні момант – намеснік дырэктара тэатра сказаў, што "Белсат" не мае акрэдытацыі пры МЗС і таму не можа прысутнічаць на мерапрыемстве.

1 лістапада ў Гродне фатографа гарадскога інфармацыйнага інтэрнэт-рэсурсу "Твой стыль" Яна Лялевіча не дапусцілі на святкаванне 95-годдзя камсамола. Спецыяльныя ўрачыстасці праходзілі ў маладзёжным цэнтры "Гродна". Фатографа на ўваходзе ў будынак спыніла ахова. Я. Лялевіч прадставіўся і растлумачыў, што здымае фотарэпартаж. У гэты момант падышоў генеральны дырэктар "Гроднааблкінавідэапракат" (прадпрыемства з'яўляецца ўласнікам МЦ "Гродна") член Савета Рэспублікі Юрый Аляксей і заявіў карэспандэнту, што мерапрыемства “закрытае”.

25 лістапада ў Гродна журналістаў не пусцілі на канцэрт фолк-гурта "Стары Ольса", які арганізоўвала абласная філармонія. Свае прафесійныя абавязкі не змаглі выканаць фотакарэспандэнт агенцтва БелаПАН Аляксандр Саенка, карэспандэнт "Радыё Рацыя" Віктар Парфёненка, а таксама карэспандэнты тэлеканала "Белсат".

Як паведаміў В. Парфёненка, увесь дзень ён тэлефанаваў у філармонію, каб дамовіцца пра рэпартаж з канцэрту. Адміністратар перанакіроўваў яго да мастацкага кіраўніка, а той па рабочым тэлефоне не адказваў. Журналіст прыйшоў у філармонію з намерам ўжо на месцы атрымаць дазвол асвятляць канцэрт. На ўваходзе ў залу журналістаў спыніла ахова. Мастацкі кіраўнік філармоніі Віктар Сакалоўскі ў прысутнасці дырэктара Таццяны Ўласенка забараніў прайсці ўсім чацвярым журналістам. Віктару Парфёненку ён сказаў, што той павінен быў атрымаць

акрэдытацыю на ўсю "Музычную філарманічную дэкаду", а не на асобны канцэрт. Іншыя журналісты выразнага тлумачэння адмовы наогул не атрымалі.

5 снежня ў Брэсце журналістаў выдалілі з канцэрту ўкраінскага гурта "Акіян Эльзы", нягледзячы на наяўнасць у тых акрэдытацыі. Журналістаў загадзя акрэдытавала Брэсцкая абласная філармонія – мясцовы суарганізатар канцэрта. Але мінская фірма (прэса называе канцэртнае агенцтва "Біг Шоу прамоўшн") настаяла на тым, каб прадстаўнікі СМІ пакінулі канцэрт – спачатку залу, а потым і наогул будынак Лядовага палаца. Журналістаў вывелі на вуліцу з дапамогай аховы.

Па сведчанні журналістаў, падставай для такога стаўлення з’явілася актыўнае асвятленне мясцовымі СМІ праблемы з квіткамі напярэдадні канцэрта. З-за няўзгодненасці ў дзеяннях арганізатараў было прададзена занадта шмат квіткоў, і людзі, якія набылі іх праз Інтэрнэт, рызыкавалі не патрапіць на выступ. У выніку ўсіх гледачоў на канцэрт прапусцілі, але арганізатары "пакрыўдзіліся" на прэсу.

## Іншыя формы ціску і парушэння правоў журналістаў

**30 ліпеня** журналістку Ірыну Халіп затрымалі ў аэрапорце "Мінск-2", калі яна збіралася вылецець за межы краіны. Яшчэ да памежнага кантролю супрацоўнікі службы бяспекі забралі ў журналісткі пашпарт і сказалі, што будуць звязвацца з КДБ, паколькі яна нібыта знаходзіцца ў спісах КДБ і яе вылет трэба ўзгадніць. Праз паўгадзіны І. Халіп вярнулі пашпарт і дапусцілі на рэгістрацыю і памежны кантроль.

*Нагадаем, з 19 ліпеня 2013 года Ірыну Халіп вызвалілі ад адбыцця пакарання па крымінальнай справе за ўдзел у акцыі пратэсту 19 снежня 2010 года ў сувязі з заканчэннем тэрміну адтэрміноўкі прысуду (гл. таксама «Судовыя справы»), пасля чаго яна мае права свабодна перамяшчацца па свеце.*

**26 жніўня** праграмнаму дырэктару "Беларускага Радыё Рацыя" (Польшча) Юрыю Ляшчынскаму адмовілі ў турыстычнай беларускай візе. Консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку вярнула яму пашпарт са штампам "адмоўлена". Прычыны такога рашэння ў консульстве не патлумачылі. Раней, у 2012 годзе, падобным чынам адмовілі ва ўездзе ў Беларусь старшыні Ўправы "Радыё Рацыя" Яўгену Вапу.

**16 верасня** маці рэдактара інтэрнэт-старонкі тэлеканала "Белсат" Дзмітрыя Ягорава дастала з паштовай скрыні позву са Следчага камітэта на імя сына. Упраўленне СК па Гродзенскай вобласці выклікала Д. Ягорава на 18 верасня ў якасці сведкі па крымінальнай справе (па якой, не паведамлялася). Позву падпісаў следчы па надзвычай важных справах аддзела раскрыцця злачынстваў на транспарце і супраць парадку выканання воінскай службы падпалкоўнік А.С. Мушынскі.

Згодна з патрабаваннямі заканадаўства, позву Д. Ягораву былі павінны перадаць асабіста, таму ісці ў Следчы камітэт ён адмовіўся, патлумачыўшы, што не быў сведкам ніякага злачынства ні на транспарце, ні звязанага з выкананнем вайсковай службы. Ён выказаў меркаванне, што гэта была спроба аказаць на яго ціск у сувязі з выкананнем прафесійных абавязкаў.

**10 снежня** ў выпуску навінаў абласнога дзяржаўнага тэлеканала "Гродна плюс" паказалі сюжэт пра затрыманне міліцыяй падазраванага ў згвалтаванні. Пасля дэманстрацыі моманту затрымання ў кадры буйным планам з'явіўся плакат з фатаграфіяй сябры БАЖ Аляксея Салея, якога неаднаразова пераследавалі за прафесійную дзейнасць і супраць якога была ўзбуджаная крымінальная справа нібыта

за выраб і распаўсюджванне парнаграфічных матэрыялаў. Фота было з указаннем яго імя і прозвішча, і ў гледача складалася ўражанне, што затрыманы – гэта Аляксей Салей. Між тым А. Салей ужо доўгі час (пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 г.) знаходзіцца за мяжой. Афіцыйна ён лічыцца ў вышуку. Як растлумачылі журналісты дзяржаўнага тэлебачання, фота ў сюжэт патрапіла ў якасці візуальнай "перабіўкі": партрэт Салея вісеў на дошцы аб'яваў, за спінай начальніка Ленінскага РАУС, які даваў інтэрв'ю тэлеканалу. Над сюжэтам працавалі журналістка Галіна Давыдзік і аператар Сяргей Печарыца. Ірына Салей, маці Аляксея, расцаніла выкарыстанне партрэта яе сына ў сюжэце пра гвалтаўніка як "ганебную правакацыю".

## Перашкоды друку і распаўсюдзе прадукцыі СМІ

**5 студзеня** РУП "Белпошта" адказала адмоўна на калектыўны зварот больш за 300 жыхароў Слонімскага раёна, якія патрабавалі вярнуць недзяржаўную "Газету Слонімскую" ў падпісны каталог.

**22 студзеня** Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь адказала на зварот жыхароў Слонімшчыны аб вяртанні незалежнага выдання "Газета Слонімская" ў сістэму распаўсюду праз падпіску РУП "Белпошта" і шапікі РУП "Белсаюздрук". Калектыўны ліст за подпісам больш за 300 заяўнікаў у снежні быў накіраваны ў Адміністрацыю прэзідэнта, а адтуль перанакіраваны ў Мінінфармацыі. З адказу міністэрства вынікае, што "Газету Слонімскую" ў дзяржаўную сетку распаўсюду не вернуць.

*Нагадаем, пачынаючы з 2006 г. "Газета Слонімская", як і шэраг іншых недзяржаўных выданняў грамадска-палітычнай тэматыкі, была пазбаўленая магчымасці трапляць да чытачоў праз падпіску РУП "Белпошта" і праз продаж у газетных шапіках РУП "Белсаюздрук". Гэтыя дзяржаўныя прадпрыемствы з'яўляюцца манапалістамі ў сваёй сферы дзейнасці.*

**22 сакавіка** актывісты Партыі БНФ Леанід Аўтухоў і Канстанцін Смолікаў былі затрыманыя, калі яны распаўсюджвалі партыйны бюлетэнь "Магістрат". Бюлетэні былі канфіскаваныя. **17 мая** суд Кастрычніцкага раёна Віцебска (суддзя Алена Протас) прызнаў Аўтухова і Смолікава вінаватымі ў парушэнні закона "Аб сродках масавай інфармацыі" і прызначыў ім штраф па 30 базавых велічынь (3 млн. рублёў) у сувязі з тым, што, паводле дадзеных міліцыі, колькасць канфіскаваных асобнікаў бюлетэня перавышала заяўлены наклад (г. зн. была больш за 299 асобнікаў), хаця бюлетэні супрацоўнікі міліцыі ў прысутнасці затрыманых не пералічвалі і падчас суда сведчылі, ужываючы выразы "вялікі стос" ці "тоўсты пачак".

**25 сакавіка** РУП "Белпошта" ў чарговы раз адмовіла ў распаўсюдзе недзяржаўнай рэгіянальнай газеце "Вольнае Глыбокае". "Паколькі абавязак па ўключэнню друкаванага выдання ў каталог не прадугледжаны заканадаўствам, выбар друкаваных выданняў для фармавання каталога з мэтай наступнага іх распаўсюду праз падпіску з'яўляецца правам РУП "Белпошта"", – паведамлялася ў адказе за подпісам намесніка гендырэктара прадпрыемства Алены Скрыпчык на просьбу ўключыць газету ў падпісны каталог на 2-е паўгоддзе 2013 года.

**29 сакавіка** суд Бялыніцкага раёна аштрафаваў грамадскага актывіста Валерыя Вусіка, жыхара вёскі Лебядзянка, на 50 базавых велічынь сукупна за незаконны распаўсюд малатыражнай газеты "Магілёўскі выбар" і за паклёп.

**16 верасня** той жа суд, нанова разгледзеўшы адміністрацыйныя справы Валерыя Вусіка пасля адмены папярэдніх судовых рашэнняў, пастанавіў спыніць іх, адхіліўшы

міліцэйскія пратаколы *(гл. падрабязней: "Затрыманні журналістаў, судовы адміністрацыйны пераслед»).*

**5 чэрвеня** ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі грамадскую актывістку кампаніі "Наш Дом" Наталлю Лявонаву за распаўсюд газеты «Наш Дом-инфо». Каля 16.00 яе даставілі ў аддзяленне міліцыі Фрунзенскага раёна, вызвалілі прыкладна праз дзве гадзіны пасля затрымання. Як паведаміла Н. Лявонава, пратакол затрымання міліцыянты не складалі, але ўзялі пісьмовае тлумачэнне, запалохвалі КДБ і следчым ізалятарам.

**16 чэрвеня** ў Мінску міліцыя канфіскавала наклад газеты "Наш дом-инфо". Прыкладна 10 тысяч асобнікаў выдання грамадзянскай кампаніі "Наш дом" і іншую друкаваную прадукцыю супрацоўнікі Савецкага РУУС забралі з аднаго з гаражоў. Канфіскаваны спецвыпуск газеты быў цалкам складзены з карыкатур. **5 чэрвеня** асобнікі гэтага ж нумара канфіскавалі ў актывісткі кампаніі Наталлі Лявонавай пасля затрымання.

**25 чэрвеня** стала вядома, што з чэрвеня рэгіянальную недзяржаўную газету "Борисовские новости" вярнулі ў падпісны каталог "Белпошты" па Мінскай вобласці.

Разам з тым, мясцовыя ўлады зрабілі ўсё магчымае, каб людзі пра гэта не даведаліся. У чэрвені рэдактар газеты Анатоль Букас распаўсюдзіў па паштовых аддзяленнях рэкламныя аб'явы аб аднаўленні падпіскі. У хуткім часе аб'явы пачалі здымаць. Паводле інфармацыі А. Букаса, адпаведнае ўказанне зыходзіла ад начальніка аддзела ідэалогіі Барысаўскага райвыканкама Людмілы Гарнак.

З рознічным продажам у газеты па-ранейшаму застаюцца праблемы. Пераважна выданне распаўсюджвалася праз рэдакцыйную падпіску, прыватную гандлёвую сетку (у крамах, на рынках) і пры дапамозе грамадскіх распаўсюднікаў. Аднак, па словах А. Букаса, камерцыйныя крамы знаходзяцца пад ціскам мясцовых уладаў, у прыватнасці, іх ідэалагічнага аддзела. Яны ж сочаць, каб мясцовыя прадпрыемствы не давалі ў газету рэкламу.

**23 ліпеня** стала вядома, што рэгіянальнай "Газеце Слонімскай" у чарговы раз не дазволілі вярнуцца ў дзяржаўную сетку распаўсюду: падпісныя каталогі РУП "Белпошта" і кіёскі прадпрыемства "Белсаюздрук". Прадстаўнікі мясцовай грамадскасці сабралі некалькі сотняў подпісаў пад зваротамі да гэтых прадпрыемстваў з просьбай аднавіць распаўсюду незалежнага выдання. Акрамя гэтага былі накіраваныя лісты ад імя рэдакцыі.

**5 кастрычніка** ў Дзяржынску на цэнтральным гарадскім рынку супрацоўнікі міліцыі затрымалі актывіста кампаніі "Разам для Беларусі" Аляксандра Тарнагурскага ў момант, калі ён распаўсюджваў сярод мінакоў газету "Еўрапейскі выбар". А. Тарнагурскага адвезлі ў Дзяржынскі РАУС, дзе пасля пераліку асобнікаў друкаваную прадукцыю канфіскавалі, пра што быў складзены пратакол канфіскацыі. Пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні падчас затрымання не складаўся.

**7 кастрычніка** ў Віцебску быў затрыманы распаўсюджвальнік незалежных СМІ Барыс Хамайда. Супрацоўнікі Чыгуначнага РАУС абвінавацілі яго ў правядзенні несанкцыянаванага пікету і адвезлі ў аддзяленне міліцыі. Адпусцілі прыкладна праз 30 хвілін без складання пратаколу *(Гл. таксама «Затрыманні журналістаў, судовы адміністрацыйны пераслед»).*

**14 кастрычніка** рэдакцыі недзяржаўнай рэгіянальнай газеты "Борисовские новости" было накіравана афіцыйнае паведамленне аб тым, што выданне не будзе ўключана ў падпісны каталог на 1-е паўгоддзе 2014 года. У сваім лісце першы намеснік гендырэктара РУП "Белпошта" Алена Скрыпчык патлумачыла гэта тым, што рэдакцыя не накіравала да 30 жніўня неабходныя звесткі, пра што Мінскі філіял "Белпошты" нібыта інфармаваў у спецыяльных лістах усе рэгіянальныя рэдакцыі. Галоўны рэдактар "Борисовских новостей" Анатоль Букас заявіў, што ніякіх лістоў не атрымліваў і таму ў

верасні сам накіраваў заяўку. Ён перакананы, што выключэнне выдання з каталога стала вынікам мэтанакіраваных дзеянняў мясцовых уладаў.

*Нагадаем, што з 1 чэрвеня 2013 года "Борисовские новости", выключаныя з падпіснога каталога на працягу васьмі апошніх гадоў, былі вернутыя ў яго – як аказалася, усяго на паўгады.*

***Паводле звестак БАЖ**, сітуацыя з распаўсюдам праз прадпрыемствы "Белсаюздруку" і РУП "Белпошта" недзяржаўных грамадска-палітычных выданняў, выкінутых ў 2005-2006 гг. з дзяржаўнай сістэмы распаўсюду, за 2013 год практычна не змянілася.*

*Па-ранейшаму ў пераліку "праблемных" газет знаходзяцца агульнанацыянальныя "Новы час", "СНплюс. Свободные новости плюс", "Товарищ" і рэгіянальныя " Борисовские новости", "Вольнае Глыбокае", "Газета Слонімская", "Intex-press", "Нясвіжскі час", "Отдушина", "Рэгіянальная газета".*

*Застаюцца па-за сістэмамі афіцыйнага распаўсюду ў Беларусі газеты "Витебский курьер" і "Наш Дом-инфо", якія зарэгістраваныя і друкуюцца ў Смаленску (РФ).*

*Грамадска-палітычны штотыднёвік "Борисовские новости" (Барысаў), які атрымаў з 1 чэрвеня 2013 года магчымасць распаўсюджвацца праз падпіску ў аддзяленнях "Белпошты" Мінскай вобласці, змог выкарыстоўваць яе толькі пяць месяцаў.*

## Абмежаванні свабоды дзейнасці ў Інтэрнэце

**5 студзеня** суд Ленінскага раёна г. Гродна аштрафаваў за "несанкцыянаваны пікет" праваабаронцаў Віктара Сазонава, Рамана Юргеля і Уладзіміра Хільмановіча на 15 базавых велічынь кожнага. Праваабаронцаў асудзілі за тое, што 10 снежня 2012 года – у Сусветны дзень правоў чалавека – яны сфатаграфаваліся з партрэтам палітвязня Алеся Бяляцкага і брашурамі «Ўсеагульная дэкларацыя правоў чалавека» ды размясцілі здымкі ў Інтэрнэце. Гродзенская міліцыя гэты медыйны факт палічыла «несанкцыянаваным пікетам», гэта значыць адміністрацыйным правапарушэннем.

**24 студзеня** і **29 студзеня** адпаведна Наваполацкі гарадскі суд аштрафаваў на 500 тысяч рублёў Яўгена Парчынскага і на 2,5 мільёна рублёў Сяргея Малашэнку, якія размясцілі ў Інтэрнэце свае фотаздымкі з партрэтам палітвязня Алеся Бяляцкага і брашурамі «Ўсеагульная дэкларацыя правоў чалавека». Наваполацкія актывісты заявілі, што яны хацелі выказаць салідарнасць з палітвязнем Алесем Бяляцкім, а таксама з гродзенскімі праваабаронцамі, асуджанымі за публікацыю аналагічнага фотаздымка.

**24 лютага** быў заблакаваны доступ да сайта *bchd.info* – інфармацыйнага інтэрнэт-рэсурсу аргкамітэта па стварэнні партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя. Прадстаўнікі БХД палічылі, што РУП "Белтэлекам" заблакаваў сайт наўмысна, у сувязі з правядзеннем марафону "Хваля салідарнасці". Доступ да сайта з Беларусі аднавіўся 26 лютага пасля шматлікіх скаргаў членаў аргкамітэта БХД у "Белтэлекам".

**2 красавіка** невядомыя ўзламалі сайт магілёўскага аддзялення праваабарончага цэнтра "Вясна" і змянілі паролі доступу да панэлі адміністратара (бэк-офіса). У выніку несанкцыянаванага доступу на сайце з'явілася публікацыя з пагрозамі ад імя праваабаронцы Барыса Бухеля на адрас незалежнага журналіста Аляксандра Буракова. Аднавіць работу сайта атрымалася 5 красавіка.

**23 красавіка** адбылася атака на інфармацыйны сайт "Хартыя'97". Зламыснікі на нейкі час змаглі заблакаваць работу інтэрнэт-рэсурсу.

**24 красавіка** каля 11.50 часова перастаў функцыянаваць сайт "Еўрапейскага радыё для Беларусі" – замест галоўнай старонкі карыстальнікі маглі бачыць толькі паведамленне аб тэхнічных работах на сайце. Магчыма, гэта была спланаваная DDOS-атака. Пасля 00:00 сайт пачаў работу ў нармальным рэжыме.

**25 красавіка** ўначы быў узламаны інфармацыйны сайт "Беларускі партызан". Хакеры размясцілі на галоўнай старонцы паведамленне, у якім прагучала пагроза некаторым незалежным сайтам: "Мы маглі б заваліць і вас, і "Хартыю", і "Вясну", і многіх іншых яшчэ даўно, але мы даем вам магчымасць існаваць пад нашым кантролем. Чаму мы гэта не рабілі? Проста цікава, хто, адкуль і ШТО гаворыць. А цяпер у нас ёсць спіс гаваруноў, якіх папярэджваем ў апошні раз: кажыце, пішыце, але не зарывайцеся, не трэба ліць бруд і абражаць АСОБУ. Асабліва апантаных здраднікаў беларускага народа мы апублікуем на сайтах WikiLeaks, размажам і распранем у прамым і пераносным сэнсе, а таксама выкладзем усе лагіны, паролі, IP-шнікі і паштавікі найбольш адвязаных каментатараў, якія выйшлі за рамкі прыстойнасці".

**25 красавіка** каля 22.00 шляхам несанкцыянаванага доступу на сайце праваабарончага цэнтра "Вясна" быў палярна зменены сэнс некаторых публікацый. Прычым гэта было ажыццёўлена адразу на трох старонках сайта: беларускамоўнай, рускамоўнай і англамоўнай. У прыватнасці, была заменена інфармацыя аб падпісанні кінарэжысёрам Андрэем Курэйчыкам петыцыі супраць смяротнага пакарання – напісана, што ён нібыта падтрымаў смяротнае пакаранне. Былі заменены коды на відэа, якія знаходзяцца на YouTube: замест відэазвароту Курэйчыка быў устаўлены відэаролік за захаванне смяротнага пакарання. Таксама была заменена інфармацыя аб пазіцыі Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) – напісана, што яна выступае ў падтрымку дзяржаўнай палітыкі Беларусі. Змены былі зроблены і ў некаторых іншых матэрыялах.

**19 чэрвеня** быў затрыманы беларускі драматург Андрэй Карэлін. Драматурга адвезлі ў аддзяленне міліцыі, дзе азнаёмілі з загадам міністра ўнутраных спраў Ігара Шуневіча аб правядзенні ў дачыненні да яго праверкі наконт двух крытычных каментароў у адрас беларускай міліцыі на форуме партала *TUT.by* і двума адміністрацыйнымі пратаколамі (ад 17 чэрвеня), складзенымі па яе выніках. На падставе гэтых пратаколаў А. Карэлін быў двойчы аштрафаваны на агульную суму 7 млн. рублёў (каля 600 еўра).

**11 ліпеня** суд Фрунзенскага раёна Мінска вынес рашэнне аштрафаваць Карэліна на 5 млн. рублёў на падставе арт. 23.5 КаАП ("Абраза супрацоўніка міліцыі падчас выканання ім службовых абавязкаў"). Па словах Карэліна, падчас судовага паседжання па справе ў якасці абразлівых прыводзіліся словы: "тоўсты", "хамы", "самавіты", "непадрыхтаваны", "непрафесійны". У ходзе слухання пацярпелыя міліцыянты заявілі, што самі каментароў на форуме не бачылі, а даведаліся пра іх ад свайго кіраўніцтва. Андрэй Карэлін сваёй віны не прызнаў. Ён патлумачыў, што не абражаў міліцыянтаў, а літаратурнай мовай выказаў сваё стаўленне да іх, а таксама звярнуў увагу суда на адсутнасць у справе заключэння лінгвістычнай экспертызы.

**26 ліпеня** адбылося яшчэ адно пасяджэнне суда, дзе А. Карэліна, у яго адсутнасць, прысудзілі да яшчэ аднаго штрафу ў 2 млн. рублёў па арт. 9.3 КаАП ("Абраза"). Па словах драматурга, інфармацыі аб апошнім судовым пасяджэнні ў яго не было.

**26 жніўня** А. Карэлін вымушаны быў звольніцца з тэатра, дзе працаваў загадчыкам літаратурна-драматычнай часткай. Паводле яго словаў, гэта адбылося пасля званка з Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Мінгарвыканкама дырэктару тэатра.

**22 чэрвеня** на сайт газеты "Наша Ніва" была здзейсненая вірусная атака. Невядомыя зламыснікі далучылі да аднаго з загалоўкаў публікацый вірус, у выніку чаго сайт быў заблакаваны. **24 чэрвеня** сітуацыя паўтарылася. **28 чэрвеня** галоўны рэдактар

выдання Андрэй Скурко звярнуўся з заявай у міліцыю, аднак злачынцы так і не былі знойдзеныя.

**22 чэрвеня** ў рагачоўскага актывіста Дзяніса Дашкевіча міліцыя ўзяла тлумачэнні наконт публікацыі на незалежным сайце *vrogacheve.ru*. Нагодай стала інфармацыя пра пераслед памерлага ў пачатку 2013 года рагачоўскага паэта Юрыя Арэстава. Супрацоўніка міліцыі цікавіла, адкуль Д. Дашкевіч узяў дакументы для публікацыі.

**4 ліпеня** сайт "Хартыя'97" паведаміў пра тое, што яго заблакавалі для карпаратыўных кліентаў і абвінавацію у гэтым інтэрнэт-правайдэра "Белтэлекам" (гандлёвая марка Byfly). Паводле заявы рэдакцыі інтэрнэт-рэсурсу, гаворка ідзе не толькі аб дзяржаўных прадпрыемствах і арганізацыях, доступ для якіх быў заблакаваны раней, але і пра карыстальнікаў у прыватных кампаніях.

**7 жніўня** стала вядома, што старшыня суда Пружанскага раёна (Брэсцкая вобласць) Уладзімір Саўчук накіраваў у пракуратуру патрабаванне правесці праверку на прадмет наяўнасці ў дзеяннях карыстальнікаў рэгіянальнага сайта *pruzhany.net* складу злачынства, прадугледжанага ч. 2 арт. 188 Крымінальнага кодэкса (паклёп). Суддзя палічыў, што некаторыя карыстальнікі інтэрнэт-рэсурсу дапусцілі ў каментарах "паклёпніцкія меркаванні з абвінавачваннем у ажыццяўленні надзвычай цяжкага злачынства суддзі І. Жытко".

Артыкул на *pruzhany.net*, пад якім з'явіліся каментары, называўся "Вынесена рашэнне суда з нагоды гібелі падлетка ў Пружанах". Ён датычыў леташняй бойкі ў Пружанах, у выніку якой загінуў 19-гадовы хлопец, і рашэння суда, які апраўдаў абвінавачанага. Многія з каментатараў абураліся такім рашэннем.

**9 жніўня** Руслан Мірзоеў, аўтар відэаролікаў «Хронікі заводу» і «Хронікі раёна», якія былі размешчаныя на YouTube і выклікалі шырокі грамадскі рэзананс, быў асуджаны судом Кастрычніцкага раёна Мінска (суддзя Ала Булаш) на сем сутак арышту. Афіцыйна падставай для асуджэння па арт. 17.1 («Дробнае хуліганства») стала нецэнзурная лаянка, якая прагучала ў «Хроніках раёна». Між тым, як было паведамлена ў эфіры канала "ОНТ", «тое, што галоўная прычына пакараньня не мат, у пракуратуры не хаваюць». Тэлеканал не растлумачыў, што ў пракуратуры лічаць сапраўднай прычынай пакарання, з-за чаго можна палічыць, што ёю стаў кантэнт роліка. Са словаў супрацоўніка пракуратуры вынікала, што Р. Мірзоеў быў прыцягнуты да адказнасці за «маніпуляванне сацыяльнымі або грамадскімі праблемамі».

Пасля ў дачыненні да блогера, які адбываў пакаранне ў выглядзе абмежавання волі па месцы жыхарства за правапарушэнне, не звязанае са СМІ, была ўзбуджана крымінальная справа па арт. 415 КК РБ «Ухіленне ад адбыцця пакарання». **13 снежня** Р. Мірзоеў быў прысуджаны да аднаго году пазбаўлення волі.

**17 жніўня** ў Светлагорску супрацоўнікі міліцыі канфіскавалі камп'ютар у блогера і грамадскага актывіста Генадзя Жулегі. Падставай таму стаў размешчаны **6 жніўня** ў сетцы Інтэрнэт відэаролік аб стане гарадскіх дарог, а таксама аб новым доме старшыні мясцовага райвыканкама. Паводле тлумачэньняў міліцыянтаў, жонка старшыні Светлагорскага райвыканкама Вольга Максіменка напісала заяву, што гэтым ролікам ён абразіў гонар і годнасць яе сям'і, а інфармацыя на відэа носіць паклёпніцкі характар *(гл. падрабязней: «Адабранне, псаванне, канфіскацыя тэхнікі»).*

**20 жніўня** стала вядома, што інтэрнэт-сайт пісьменніцы Святланы Алексіевіч *alexievich.info* не адкрываецца з тэрыторыі Беларусі. Пры гэтым сайт быў даступны праз проксі-серверы ў іншых краінах. Па словах С. Алексіевіч, спачатку яна думала, што гэта проста часовыя тэхнічныя непаладкі. Потым яна даручыла правесці тэхнічную праверку, і высветлілася, што сайт заблакаваны толькі ў Беларусі.

**17-18 кастрычніка** не функцыянаваў прафсаюзны інфармацыйны інтэрнэт-рэсурс *www.praca-by.info*. Хостынг-правайдар вымушаны быў заблакаваць сайт, паколькі нехта ўзламаў акаўнт і рассылаў з яго спам. На думку рэдактара рэсурсу Наталлі Пічужкінай, гэта магло быць звязана з актыўным асвятленнем *praca-by.info* сітуацыі вакол галадоўкі

лідэраў Беларускага незалежнага прафсаюзу на Мазырскім нафтаперапрацоўчым заводзе. Званок ад хостынг-правайдара паступіў неўзабаве пасля таго, як яна зрабіла англамоўную рассылку больш чым 100 адрасатам з заклікам падтрымаць галадаючых.

**24 кастрычніка** ў Бабруйску ў кватэры блогера Алега Жалнова міліцыянты правяліператрус, у выніку якога забралі ўсе электронныя носьбіты інфармацыі. Падставай для агляду стала заява маёра ДАІ УУС Бабруйскага гарвыканкама Яўгенія Сераштанава аб тым, што ў сетцы Інтэрнэт у 2012-2013 г.г. невядомая асоба – меркавана Алег Жалноў – размясціла аўдыё- і відэаматэрыялы, якія абражаюць яго гонар і годнасць і шкодзяць яго дзелавой рэпутацыі *(гл. падрабязней: «Адабранне, псаванне, канфіскацыя тэхнікі»).*

**19 лістапада** ў Рагачове (Гомельская вобл.) у кватэры грамадскага актывіста і рэдактара рэгіянальнага партала *vrogacheve.ru* Дзяніса Дашкевіча супрацоўнікі Следчага камітэта правялі ператрус і забралі два камп’ютары і мадэм. Супрацоўнікі праваахоўных органаў паказалі Д. Дашкевічу санкцыю на агляд жылля і паведамілі, што ідзе праверка па крымінальнай справе па факце абразы прадстаўніка ўлады.

Неўзабаве пасля сыходу супрацоўнікаў Следчага камітэта Дзянісу Дашкевічу тэлефанавалі невядомыя і маўчалі. Тады ж па Skype яму даслалі паведамлення: "Ты дагуляўся! Ты хутка сядзеш".

Падставай для гэтых падзей стаў артыкул аб адным з намеснікаў кіраўніка мясцовай улады, які, мяркуецца, быў звольнены са жлобінскай мытні за тое, што зліваў бензін са службовых аўтамабіляў *(гл. падрабязней: «Адабранне, псаванне, канфіскацыя тэхнікі»).*

**13 лістапада** намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра "Вясна" Валянцін Стэфановіч накіраваў скаргу ў Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь. Ён дамагаецца рассакрэчвання дзяржоргана, згодна з рашэннем якога сайт арганізацыі – *spring96.org* – патрапіў у спіс інтэрнэт-рэсурсаў абмежаванага доступу.

З гэтым пытаннем праваабаронца раней звяртаўся ў Аператыўна-аналітычны цэнтр пры Прэзідэнце РБ, а таксама ў Дзяржаўную інспекцыю па электрасувязі, паколькі, паводле інфармацыі з ААЦ, менавіта БелДІЭ павінна даць адказ на пастаўленыя пытанні. Аднак праваабаронца так і не атрымаў запатрабаваную інфармацыю. Начальнік БелДІЭ Сяргей Багданаў паведаміў, што "нарматыўнымі прававымі актамі не рэгламентаваны паўнамоцтвы РУП "БелДІЭ" па распаўсюджванні інфармацыі аб ідэнтыфікатарах інтэрнэт-рэсурсаў, якія ўтрымліваюцца ў спісе абмежаванага доступу".

**8 снежня** прыкладна з 12 да 18 гадзін работа сайта беларускай службы "Радыё Свабода" была парушаная з-за DDoS-атакі. Атака не спыніла доступ да старонак у Інтэрнэце, аднак замарудзіла работу і абнаўленне сайта. Увечары 8 снежня работа сайта была адноўленая ў нармальным рэжыме. Перыядычныя кібератакі пачаліся з **14 лістапада**, што выклікала збоі ў рабоце мультымедыйнай і інфармацыйнай службаў радыёстанцыі.

## Эканамічная палітыка ў дачыненні да СМІ

**11 студзеня** ўказам прэзідэнта быў падоўжаны тэрмін вызвалення ад выплаты падаткаў тэлеканалаў СТВ (ЗАТ "Сталічнае тэлебачанне") і АНТ (ЗАТ "Другі нацыянальны тэлеканал"). Папраўкай ва ўказ ад 2009 года "Аб дзяржаўнай падтрымцы тэлерадыёкампаній" заканчэнне гэтага тэрміну было перанесена з 2012 года на 2015 год.

Такім чынам, да 31 снежня 2015 года ОНТ і СТВ працягнуць атрымліваць "дзяржаўную падтрымку ў выглядзе субсідый з рэспубліканскага бюджэту ў межах сум падаткаў на прыбытак і дабаўленую вартасць ад прадпрымальніцкай дзейнасці", выплачаных за гэты перыяд у бюджэт.

*Нагадаем, 22 снежня 2012 года стала вядома, што ад выплаты ПДВ і падатку на прыбытак вызвалена таксама Белтэлерадыёкампанія (НДТРК).*

**16 снежня** Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу разгледзела ў другім чытанні законапраект аб рэспубліканскім бюджэце на 2014 год. У адпаведнасці з гэтым дакументам ў 2014 годзе расходы на фінансаванне дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі складуць 676,1 млрд. рублёў (каля 52 мільёнаў еўра), з іх 548,3 млрд. рублёў (каля 42 мільёнаў еўра) атрымаюць тэлебачанне і радыё.

На фінансаванне інтэрнэт-партала прэзідэнта прадугледжана 15,3 млрд. рублёў (каля 1 млн. 178 тыс. еўра). Гэтыя грошы будуць выкарыстоўвацца для "збору, падрыхтоўкі і распаўсюджвання дзяржаўнага заказу на афіцыйную інфармацыю, функцыянаванне новай версіі афіцыйнага інтэрнэт-партала Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь".

***За 2013 год** на дзяржаўныя СМІ было выдаткавана каля 60 мільёнаў еўра. Каля 46 мільёнаў з іх пайшлі на фінансаванне радыё і тэлебачання, каля 6 – фінансаванне друкаваных СМІ.*